
На Вадохрышча → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Сямейны лёс → 8-9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3273) Год LXIV Беласток, 3 лютага 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Васіль Петручук, народжаны ў 1926 г. у Грабаўцы Дубіцкай гміны Гайнаўскага павета, пачаў пісаць па-беларуску ад часу, калі вярнуўся на Беласточчыну. Быў чытачом «Нівы» — казаў, што вывучыў беларускую мову з яе старонак ды з сустрэч з ніўцамі, асабліва з ніўскімі дзяўчатамі, якія вельмі прыхільна ставіліся да ягоных літаратурных спроб і яго галантнасці. А быў ён афіцэр, які з абдзертага, усяго ў прымэдах пастушка моцным стараннем дакаціўся да школ, сам адолеў універсітэцкія веды, стаў пісьменнікам, вывучыў мовы. Пасля стаў адным з нашых найлепшых карэспандэнтаў. Ягоная першая кніга выйшла найперш на польскай мове (у перакладзе Юркі Плютовіча). А ў нашым альбоме пра «Ніву» з гонарам змясцілі мы здымак яго вайсковай кніжачкі, у якой ён сваю нацыянальнасць назваў беларускай, родную мову — беларускую, а мовамі вывучанымі — польскую і рускую.

# Васілёва беларушчына

Васіль Петручук заўжды казаў, што ён член Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, быццам чамусьці не хацеў пахваліцца сваёй беларускай мовай. «Я скажу, што гэта быццам бы наадварот! Я не меў чым хваліцца, бо якраз маё няшчаснае існаванне сярод вясковай цемры не давала мне такой магчымасці, каб вывучыць яе, нават польскай мовы. Бо мачыха з «добрым» татам ані на адзін дзень не пусцілі яго ў школу». Мог ён размаўляць толькі па-грабавецку.

Васіль вельмі хутка вучыўся. Калі бежанцы вярнуліся з Расіі ці Украіны, дык ён, пачуўшы ад іх рускую ці ўкраінскую мовы ды песні, лёгка іх прысвойваў. Цётка Матрона казала, што ў Васі памяць такая, як у пакойніцы Ганны (яго мамы). Яна часам на здзіўленне сям'і ўставала раніцай і спявала песню пачутую ў сне. Але не дачакала мама, каб гэтыя песні ці песню пераказаць сыну. Але ён і так сярод гэтых людзей мучыўся, пераносіў іх здзекі і насмешкі, а ад бацькоў рэмень, біч і кій, але імкнуўся штосьці ведаць і шанаваць старэйшых людзей. Жыццё Васіля спынілася ў светлы дзень 19 студзеня, калі адкрываюцца нябёсы. Калісьці з групай аднагодкаў ды старэйшых хлопцаў (трох Петрыкавых, трох Антонікавых і з Шэшкавым Мытей) Васіль пасвіў кароў у Буселніку. Убачыўшы, што да Грабаўца ідзе з Дубіч матушка, ён сказаў ёй «здраствуйце», а матушка адказала. А хлопцы на гэта: «Дурный мазур, каму ты кажэш здраствуйце, то ж то попадя?!». А матушка на гэта: «То ты адзін з другім выростэш на дурня, а з ёго будут людэ!» Матушка ўвайшла ў вёску, а калегі ўсыпалі Васілю кіёў... А матушка са Свята-Ільінскай царквы, дзе ён канчаў свой век, падарыла Васілю крыжык. Найбольшы яго скарб. Выспаведаўся ён, прыняў прычасце, мірапамазанне...

Калісьці ў размове з паслом Рэспублікі Беларусь Васіля пахвалілі за прыгожую беларускую мову. А ён пахваліўся яму, што ведае мовы беларускую, рускую і ўкраінскую як польскую. А польскую — на тры. «Як бы не было, але калі вучыўся ў тэхнікуме сувязі, то пані прафесар па рускай мове і літаратуры папрасіла мяне, каб я на дзень сувязіста падрыхтаваў прамову і сказаў яе перад усім тэхнікумам і гасцямі. За мову атрымаў воплескі, а за верш Міхалкова пад загалоўкам «Сувязіст» — бурныя апладысменты. І да сёння памятаю той верш».

Заўжды быў Васем.

— Калі я працаваў у Аддзеле спецсувязі, усе афіцэры звярталіся да мяне «Вася». І наогул, дзе б я не быў, нідзе не таіў сваёй нацыянальнасці, як гэта часта рабілі мае грабаўляне, працуючы ў Варшаве. Не буду называць іх прозвішчаў, бо няма кім хваліцца, але калі наведвалі мяне, калі я жыў у сясцёў, то нават цешча звяртала ім увагу, каб размаўлялі па-свойму: «Ja wiem, kim jest Wasia i bardzo go lubię». Але дзе там — яны «палякі». А ў маё існаванне сярод палякаў перанёс я дзве прыкрасці. Не, тры. Першая такая, што ў РКУ ў Бельску даведаўся, што я не Васіль, а Базыль. Калі я быў у афіцэрскай школе свініяваты нацыяналіст назваў мяне «рускім гарбузом» за тое, што я, быўшы дзяжурным афіцэрам батальёна, не дазволіў яму ажэрці дадатковай кансервы. А трэці выпадак — у 1981 годзе капітан пагранічных войск сказаў мытніку Юзафу Мжычку: «O, widzi pan, ten skurwysyn myśli, że jak się nazywa Pietruczuk, to jest oczkiem w głowie». Я ўсяго перанёс у жыцці, і ведаў, кім я ёсць. Але як мне цяжка цешыцца сваім глыбокім патрыятызмам, калі ўнучкі ведаюць многа замежных моў, а маёй роднай — не...



**Памяцi Сябрука Васіля Петручука**

Дарагі Васіль,
Не хапіла ўжо сіл,
Каб змагацца далей
З болямі без надзей.

Перажыў я Твой век,
Ёсць таксама той здзек
Над штодзённым жыццём,
На тым свеце быццём.

І нам, жывых сярод,
Астаўся толькі адыход.
Ужо Цябе ніколі
Вострая Пожня не ўколе.

І ўсе жыцця цярпенні
Становяцца выбаўленнем.
Хай зорная дарога
Вядзе Цябе да Бога.

Віктар ШВЕД
Беласток, 19 студзеня 2019 г.

А дзякуючы сваёй творчасці дарабіўся і сяброў, і ворагаў. Георгій Валкавыцкі ў сваёй фрашцы пра Васіля адзначыў: *Выйшаў ён на Пожню, дзвынкнуў медалямі, пастушкам зняможаным уручыў дынаміт* («Ніва», 20.09.1992).

— Я сваёй пісанінай дарабіўся і сваіх ворагаў, і чужых прыяцеляў. Нават маю ва Украіне чытачку Аляксандру Пятроўну, якая маю «Пожню» атрымала з Камчаткі і каля трыццаці гадоў піша мне пісьмы і віншаванні з днём нараджэння. А вось яе пажаданні на маё сямідзесяцігоддзе: «Сегодня я желаю Вам здоровья, счастья, радости. На зло предательским годам прожить сто лет без старости. Листать страницы прожитого рано, рождения дату незачем смотреть. Она была и будет без обмана, весь фокус в том, чтобы не стареть...».

Васілёва «Пожня» сапраўды ўскалыхнула сэрцы многіх чытачоў, не толькі на Падляшшы. «Księga hańby», якую адважыўся выдаць тры разы, а ў 2019 годзе выходзіць чарговая — дала яму ворагаў сярод тых, хто біў за беларушчыну, ушаноўваных цапер, ворагаў і сярод іхніх патомкаў, якія патрапілі яму званіць з пагрозамі. Але мы не забудземся пра яго і ягоныя словы. Часта званіла яму Тэрэса Якубоўская, пані прафесар Крыстына Бадурска-Рытэль. Званіла яму шмат старых вайскоўцаў з усёй Польшчы. Прыемная і карысная была камунікацыя з доктарам Міколам Рошчанкам, з Юркам Трачуком, Янам Чыквіным, Нінай і Дзмітрыем Шатыловічамі. У раннім дзяцінстве прысніўся Васілю распяты Хрыстос. Усім сардэчна дзякаваў Васіль за ўвагу, сяброўства і зразуменне. Васіль быў добрым чалавекам. «Я назаўжды застануся беларусам!».

А трызна пасля пахавання Васіля была самая блізкая, поўная ўспамінаў, чытання яго твораў. Наймілей успаміналі свайго дзядзьку Марыся Нічыпарук з сынам Марыюшам, якія прынеслі на яго магілку вянок ад грамадскасці Дубіцкай гміны.

Міра ЛУКША





# План на штрафы і апазіцыя

І што, думаеце няма аніякай сувязі паміж апазіцыяй і запланаванымі ў Беларусі 100 мільёнамі рублёў на штрафы? Ну як гэтага можа не быць, калі ў планавай эканоміцы ўсё запланавана ды зафіксавана. І штрафы, і апазіцыя, і сувязь паміж імі, і ўсё астатняе.

У планавай эканоміцы нічога не адбываецца без плана. Тут і спрачацца не варта, ды і няма з кім, бо ўсе з гэтым згодны. Не ўсе згодны, што такая мадэль эканомікі ўвогуле павінна існаваць, але калі яна ёсць, то план галоўны яе рухавік. Ён жа галоўная мэта, і ён жа абавязковы прымус да выканання сябе самога іншымі. Як казалі нашы людзі яшчэ пры Савецкім Саюзе, раней прымушаў пан, ну а зараз план.

Планавая эканоміка ад таго што яна спланаваная, выдатна ведае ўсё наперад. І да бабкі хадзіць не трэба. Ды пры такой эканоміцы няма і калі расхаджвацца. Бо там распісаная кожная хвіліна жыцця, а таксама кожная дробязь, ды рэчы важныя таксама. І колькі бульбы збярэ нейкі там не самы перспектыўны калгас запланавана, і колькі выбарцаў прыйдуць на выбарчыя ўчасткі і за каго прагаласуюць распісана, і нават калі гэтая планавая эканоміка ляснецца і больш не падымецца зафіксавана. Апошняе трымаецца ў сакрэце галоўнымі стваральнікамі такога плана. Як бы мовіць, запланавана нават ступень трываласці такой сістэмы і тэрмін людскога цярпення да яе таксама пралічаны дэталёва.

Сённяшняя Беларусь — яскравы прыклад такой мадэлі. Вось толькі колькі не плануй, а жыццё падкідвае сюрпрызы. Запланавалі збор з дармаедаў, а дармаеды яго не маюць. Колькасць па дармаедах выкананая, выканаўцы дармаедаў налічылі колькі ім сказалі, а вось па іх унёску ў планавую эканоміку не зусім па плане пайшло. І што рабіць? Не скарачаць жа з-за дармаедаў колькасць АМАПу. Наадварот, тыя дармаеды паказалі, што АМАП павялічваць трэба паралельна з павелічэннем колькасці дармаедаў. Каб на аднаго такога непаслухмянага і непрацаўладкаванага дармаеда працаўладкаваць хаця б некалькі паслухмяных супрацоўнікаў. А то дысбаланс адбудзецца паміж працаўладкаванымі і тымі, хто без працы сядзіць і яшчэ плаціць у казну не хоча.

Ну а дзе ўзяць запланаваныя з дармаедаў грошы? Ну ясна дзе, узяць з тых, хто плаціць не адмаўляецца. І вось наша мадэль планавай эканомікі праяўляе цуды гнуткасці і эластычнасці ды запланue на бягучы год 100 мільёнаў рублёў штрафаў. І толькі недасведчаныя ў цудах такой эканомікі людзі могуць падумаць, што калі грамадзяне нічога не парушаць, то і на гэты год план дасць збой. Нічога падобнага! Пры такой мадэлі эканомікі дзейнічае ўзятае ўжо з палітычнага поля правіла, што быў бы чалавек, артыкул знойдзецца. Бо не чалавек, а за чалавека думаюць, парушыў ён што, ці не.

Ну давайце ўявім, што ўсе беларусы, каб пазбегнуць штрафу на зіму пераабуюць свае машыны ў зімовыя шыны. Ну і што?! Адпаведныя службы прарэагуюць і выпусцяць указ браць штраф з тых, хто сам не пераабуўся ў зімовыя боты з адпаведным пратэктарам. І гэта ж для людскага дабра. А то будуць коўзацца на лысых падэшвах, гузакоў сабе панабіваюць. А так заплацяць штраф і пераабуюцца. І ім добра, і план выконваецца.

Ды ці мала прыдумаць можна з чаго штрафы здзерці. Выйдзе ў мароз чалавек без шапкі, штраф яму ў плечы ў суме роўнай кошту бабровай вушанкі! Лепш хай дапамагае краіне план выконваць, чым у шпіталі валяцца будзе. А можна як у тым Савецкім Саюзе падобны клопат пра народ ад імя народа і падаваць. Маўляў, па шматлікіх просьбах працоўных уводзім чарговы штраф за тое, што ў цябе на працягу года не было штрафаў. Бо неяк сацыяльна несправядліва атрымліваецца, адны плацілі штрафы, дапамагалі выканаць чуды план і папоўніць казну, а іншыя праігнаравалі гэты грамадзянскі абавязак. І назваць гэты штраф можна карай за адсутнасць сумлення.

Як бы гэта смешна не гучала, але пакуль што прадказанні гумарыстаў збываюцца не менш чым і ў астролагаў. А тое, што падобных штрафаў яшчэ няма, хіба што тлумачыцца тым, што ў Беларусі ёсць адпаведная колькасць апазіцыянераў, якія сваімі штрафамі пакрыюць той план з лішкам. Так што ўраду разам з павелічэннем плана на штрафы трэба запланаваць павелічэнне колькасці апазіцыі. І тады, паверце, усё будзе ў парадку.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Высокі замак



Я выпадкова сустрэў на вуліцы сябра дзяцінства, Лесю. Мы не бачыліся на працягу паўстагоддзя... Паўспаміналі мы пры піве старыя часы. Прыблеклыя колеры мінулага зноў набралі колеру. Расcталіся праз паўгадзіны. Магчыма, назаўжды. Ён спяшаўся да свайго, я да свайго жыцця. Акрамя дзяцінства не лучыла нас нічога. Тым не менш, я запамятаў яго гісторыю пра службу ў войску. Калісь яна была абавязковай і працягвалася два гады. Леся быў на мяжы зрыву пасля грубага дамагання нейкага прафесійнага капральчыка. Нават ён хацеў скончыць з сабой. Або забіць капрала. Раптам ён зразумеў, што ўся ўлада, сутнасць якое ён сам узурпуе, з'яўляецца вытворным ад яго ганебнага падпарадкавання ад стаяўшых ад яго вышэй у іерархіі. Магчыма, нейкага подлага сяржанціка. І той таксама застаецца ў цісках ваеннай строгасці аж да выхаду на пенсію, калі ён сам пасля службы на працягу двух гадоў вернецца ў свой дом, сям'ю і нармальнае жыццё. Прыгнечанасці Леся было строга вызначана вымярэнне часу; капрала пакута — верагодна, на ўсё жыццё. «Гэта была шчаслівая думка. Як выйгрыш у латарэі. Вярнула маю надзею і веру, што штодзённы перасled капрала пражыву», — абагульніў сваю гісторыю.

Надзея і вера. Надзея заўсёды побач веры, гэта на самой справе не неадлучны цень. Гэта як дзень і ноч — фаза аднаго і таго ж цыкла кручэння Зямлі. Ён вызначае дзень і пасля яго ноч. Без ночы не было б дня. Не было б дня без ночы. Ночадзень. Надзеявера. Жыццёсмерць. Іх бясконцае кручэнне ... Гэта дваістае адзінства, не ўсе з якіх я тут пералічыў. Ёсць іх дзіўна шмат.

Надзея вынікае з тых жа крыніц, што непераадольная неабходнасць удзелу ў азартных гульнях. Я так думаю. Мы гуляем, хоць праіграваем. Часам трапляем «тройку», часам «чацвёрку». Гэта ўсяго толькі некалькі злотаў выйгрышу, які трапляецца не так рэдка, што ўзмацняе ў нас патрабавальнае стаўленне да жыцця. Мы хочам, каб таго было яшчэ больш. Каб трапілася «шасцёрка». Амаль патрабуем яе ад жыцця, таму што калі турбуе нас яно хваробамі, войнамі і катаклізмамі, і, нарэшце, у канцы сваёй фазы цыкла, у канчатковым рахунку разбурае ўпартую веру ў сэнс непазбежнага фіналу, смерць, якая прыпячатвае экзістэнцыяльную недастатковасць і пачуццёвую ненасытнасць, справядліва было б для нас, каб функцыянавала яно ў якасці падпарадкаванай ролі. Таму мае выконваць нашы таемныя, бо сарамлівa схаваныя мары. Неабавязкова раскошны дом з басейнам, тлусты банкаўскі рахунак, экзатычныя вандроўкі і нават нябеднае існаванне ранцье. Некаторыя больш за матэрыяльнае багацце ставяць уладу, славу, вечную славу. Гэта іх жаданая «шасцёрка». Толькі што нешматлікія атрымаюць гонар выйгрышу, хоць мы ўсе разлічваем на шчопаць шчасця. Акрамя таго здараецца, што нехта «дапамагае» шчасцю зладзейскім ці бандыцкім спосабам. Апошняе забойства мэра Гданьска, верагодна, з'яўляецца прыкладам гэтага. У цэлым, аднак, ніхто не выйграе. Гэта зусім не азначае, што ўсе прайграюць. Перамога і пройгрыш таксама падвойнае адзінства. Як няспанне і сон. Дабро і зло. Праўда і хлусня. Незалежна ад таго, што падманутую «шасцёрку» будзе ахопліваць пазней асуджэнне. Вось такі шавец Герастрат ... Але што Герастрат! Вось, Аляксандр, Напалеон, гэта проста рэч! Нягледзячы на тое, што яны зрабілі больш шкоды, чым карысці, але хто папракае іх сёння за праліў галонаў крыві — і салдацкай, і нявінных ахвяр, выкліканых гэтымі войнамі, калі дзякуючы іх амбіцыёзнай хцівасці запушчаны былі «рухавікі» культурнага і цывілізацыйнага развою чалавецтва. Глабалізм гэта не вынаходства сучаснага капіталізму, а па сваёй сутнасці — гістарычны працэс. Элінізацыя старажытнага свету адбылася дзякуючы Аляксандру, стандартызацыя еўрапейскай культуры — Напалеону. Аб экспансіі ісламу ў сярэднія стагоддзі ў гэтым месцы таксама варта згадаць. Наколькі больш узбагацілася еўрапейская, таму глабальная культура, дзякуючы ваяўнічым мусульманам! А якое значэнне для гісторыі свету сёння маюць злавесныя постаці Гітлера і Сталіна? Тым не менш, мы не ў поўнай меры ведаем. Тым не менш, мы ведаем, па-за ўсякім сумневам, што будучыня чалавецтва была і будзе падымацца над ганарлівасцю і фанфарыстасцю звышамбітных адзінак, невуцтвам і пасіўнасцю мас, на вечнай раўнавазе паміж святасцю і грахоўнасцю чалавечых ідэй — дастаткова добрых, каб прынесці надзею змен да лепшага, дастаткова дрэнных — як заўсёды цягнуць за сабой гекатомбу ахвяр.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Украінцы і беларусы ў польскай гаспадарцы (2)

Мае знаёмыя з недаверлівасцю паставіліся да напісанага мною ў папярэднім нумары, што на нашым працоўным рынку ў Падляшскім ваяводстве ажно тры разы больш афіцыйна зарэгістраваных украінцаў чымсьці беларусаў. Калі яны пабачылі, як выглядае гэтая статыстыка ў маштабе Польшчы, дык папрасілі, каб у «Ніве» надрукаваць расклад працаўладкавання чужаземцаў ва ўсіх ваяводствах краіны, проста дзеля цікаўнасці і зафіксавання пэўнага гістарычнага моманту ў жыцці Польшчы і яе суседзяў. Сумняваўся я крыху ці публікаваць сухую статыстыку, але таксама палічыў, што няхай нашы чытачы сваімі вачыма і розумам зробяць высновы з пададзеных лічбаў. Усе даныя апрацаваныя Міністэрствам сям'і, працы і сацыяльнай палітыкі і датычаць працаўладкавання іншаземцаў у Польшчы ў першай палове 2018 года на аснове ўліковай дакументацыі павятовых бюро працы. Там запісаны наступныя колькасці працаўнікоў з Усходу ў паасобных ваяводствах:

**Апольскае** — усяго 28 521, у тым ліку беларусы — 433, рускія — 68, украінцы — 26 919, малдаване — 765, грузіны — 323, армяне — 13;

**Вармінска-Мазурскае** — усяго 12 910, у тым ліку беларусы — 1203, рускія — 132, украінцы — 10 293, малдаване — 893, грузіны — 383, армяне — 6;

**Вялікапольскае** — усяго 84 815, у тым ліку беларусы — 2766, рускія — 192, украінцы — 78 575, малдаване — 2046, грузіны — 1158, армяне — 78;

**Заходнепаморскае** — усяго 27 920, у тым ліку беларусы — 948, рускія — 103, украінцы — 25 679, малдаване — 702, грузіны — 461, армяне — 27;

**Куяўска-Паморскае** — усяго 31 938, у тым ліку беларусы — 824, рускія — 93, украінцы — 29 904, малдаване — 753, грузіны — 339, армяне — 25;

**Лодзінскае** — усяго 62 339, у тым ліку беларусы — 1259, рускія — 103, украінцы — 59 357, малдаване — 666, грузіны — 921, армяне — 33;

**Люблінскае** — усяго 16 042, у тым ліку беларусы — 1588, рускія — 58, украінцы — 14 108, малдаване — 84, грузіны — 168, армяне — 36;

**Любушскае** — усяго 43 312, у тым ліку беларусы — 949, рускія — 120, украінцы — 40 486, малдаване — 981, грузіны — 744, армяне — 32;

**Мазавецкае** — усяго 116 273, у тым ліку беларусы — 8291, рускія — 528, украінцы — 101 483, малдаване — 4314, грузіны — 1467, армяне — 190;

**Малапольскае** — усяго 58 727, у тым ліку беларусы — 805, рускія — 240, украінцы — 54 175, малдаване — 2453, грузіны — 1006, армяне — 48:

**Ніжнесілезскае** — усяго 79 382, у тым ліку беларусы — 1948, рускія — 281, украінцы — 75 362, малдаване — 464, грузіны — 1214, армяне — 113;

**Падкарпацкае** — усяго 10 917, у тым ліку беларусы — 242, рускія — 26, украінцы — 10 331, малдаване — 261, грузіны — 44, армяне — 13;

**Паморскае** — усяго 65 976, у тым ліку беларусы — 3946, рускія — 370, украінцы — 58 882, малдаване — 1773, грузіны — 906, армяне — 99;

**Свентакшыскае** — усяго 12 092, у тым ліку беларусы — 333, рускія — 14, украінцы — 10 299, малдаване — 1068, грузіны — 367, армяне — 11;

**Сілезскае** — усяго 92 948, у тым ліку беларусы — 1893, рускія — 294, украінцы — 87 380, малдаване — 1650, грузіны — 1700, армяне — 31.

Маю надзею, што Шаноўныя Чытачы пераадолелі гэтыя многія даныя, але яны менавіта неабходныя, каб можна было пачаць рабіць высновы. Для мяне абсалютна відавочным становіцца адсталасць і слабы гаспадарча-прыцягальны патэнцыял усіх ваяводстваў на Усходняй сцяне. Дзеля памяці нагадаю толькі, што ў Падляшскім ваяводстве ў першай палове 2018 года было афіцыйна зарэгістраваных 12 700 чужаземцаў. Што тут гаварыць, калі маленькае па тэрыторыі Апольскае ваяводства патрабуе больш чым удвая рук да працы, чымсьці ў нас, ці ад Мазурска-Вармінскага, Люблінскага, Свентакшыскага, Падкарпацкага ваяводстваў. Таму нічога дзіўнага, што менавіта з гэтых ваяводстваў надалей працягваецца адток людзей за навукай і працай у іншыя рэгіёны краіны і за мяжу.

Гэтыя даныя, а таксама іншыя мікра- і макраэканамічныя паказчыкі ясна гавораць, што лозунгі палітыкаў і эканамістаў пра паўночна-ўсходнюю Польшчу як зону турыстычна-адпачынковай галіны развіцця былі прыдуманымі і ўзятымі са столі. Такім чынам мы мусім увесь час даганяць не толькі Еўропу, але і астатнія рэгіёны Польшчы. Трэба толькі спадзявацца і верыць, што ўсе зараз інвеставаныя ўрадавыя праграмы для Усходняй сцяны завершацца паспяхова. Але гэта іншыя ўжо праблемы.

**Яўген ВАПА**

**VIII Калядныя сустрэчы на Вадохрышча падчас святкавання Хрышчэння Гасподняга 19 і 20 студзеня 2019 года ўдала прайшлі ў Ягуштове, Парцаве і Кашалях. Зацікаўленасць калядаваннем, падчас якога калядоўшчыкі раздавалі хрысткі, засушаныя дубовыя галінкі з лісткамі, была вялікай. Дарафей Фіёнік і яго Музей малой айчыны ў Студзіводах, галоўны арганізатар Сустрэч на Вадохрышча, адраджае калядаванне з хрыстком, якое найдаўжэй пратрывала ў Арэшкаве і Парцаве, дзе старажылы, будучы дзеткамі, самі раздавалі хрысткі. Студыя фальклору «Жэмэрва» са Студзіводаў, калектывы з Бельска-Падляшскага і Палесся, якія супрацоўнічаюць са Студзіводскім музеем, калядуюць падчас Богаяўлення ў вёсках Бельскага, Гайнаўскага, Сямятыцкага і Беластоцкага паветаў. Бывае, што да калядавання далучаюцца мясцовыя жыхары.**


У Ягуштове калядавалі «Жэмэрва» і «Хаціславяне» (злева Дарафей Фіёнік)

# VIII Калядныя сустрэчы на Вадохрышча

У першых стагоддзях хрысціянства Раждаство Хрыстовае і Хрышчэнне Гасподняе святкаваліся супольна і пасля іх раздзялення захавалі падобнае значэнне. На першы дзень Богаяўлення людзі масава наведваюць цэрквы, каб памаліцца і прынесці дамоў асвячоную ваду, у якой асаблівая моц. Напярэдадні Вадохрышча на панадворку Дарафея Фіёніка і ў Студзіводскім музеі традцыйна адбываецца асвячэнне будынкаў. Прыносіць ён дамоў ваду з Малога асвячэння вады, якое здзяйсняецца напярэдадні святкавання Хрышчэння Гасподняга і пасля Куцці, якую ладзіць сям'я Фіёнікаў у гэты посны дзень, Дарафей Фіёнік асвячае свой і музейны дабытак.

— Сноп, што стаіць у кутку маёй хаты ад Куцці (напярэдадні Раства Хрыстовага), да Вадзяной куцці (напярэдадні Хрышчэння Гасподняга) у нас называюць «госцем». Пасля ўрачыстай поснай вячэры, перад Вадохрышчам, падобнай да той перад Раждаством Хрыстовым, я абрэзваю калоссе са снапа, мачаю яго ў асвячоную ў гэты дзень ваду і спачатку асвячаю дом, пазней іншыя свае і музейныя будынкі, таксама клуню і хлеў. Дзверы асвячаю звонку і ад сярэдзіны, а на галоўных уваходных дзвярах у дом, клуню і ў музейныя хаты пішу крэйдай крыж і літары «ХВ», што абазначае Хрыстовае Вадохрышча. Дапамагаюць мне дзеці, якія вучацца нашым традыцыям. Асвячонае калоссе дабаўляю ў корм жывёле, каб добра гадавалася і не хварэла. Будынкі мы асвячаем, каб зберагчы іх ад усялякіх няшчасцяў. Саломай з «госця» я абкручваю дрэвы на панадворку, каб перазімавалі здаровымі. Усё, што робіцца з малітвай, мае духовае значэнне, — гаварыў Дарафей Фіёнік, галоўны арганізатар Калядных сустрэч на Вадохрышча, 19 студзеня ў Ягуштове. Заявіў таксама, што на яго панадворку расселяліся дубкі і калі пачаліся Калядныя сустрэчы на Вадохрышча, гэтыя дубкі ператалі скідаць лісткі на зіму. Арганізатары сустрэч бяруць гэтыя дубовыя галінкі на хрысткі.

VIII Калядныя сустрэчы на Вадохрышча ўдала прайшлі ў час святкавання Богаяўлення, 19 і 20 студзеня, у Ягуштове, Парцаве і Кашалях. Вялікая грамада калядоўшчыкаў на першы дзень Хрышчэння Гасподняга калядавала па Ягуштове. Раней спявалі яны калядкі ў царкве апостала Іаана Багаслова, распаложанай у канцы вёскі, дзе спаткаліся з радасным прывітаннем вяскоўцаў. Пазней калядавалі па хатах і на панадворках мясцовым жыхарам, якія былі рады, што іх вёску наведалі калядоўшчыкі з Хаціслава ў Рэспубліцы Беларусь, Бельска-Падляшскага і наваколля.


Калядоўшчыкі з «Жэмэрвы» і «Хаціславян» спявалі калядкі па хатах і на панадворках

— Калядаванне пачынаем з прывітальных слоў гаспадарам і гаспадыням, паўтараем словы «Панна Марыя на прыстолі стояла...» і раздаем хрысткі, дубовыя галінкі з засушанымі лісткамі. У мінулым дубовыя галінкі асвячаліся ў царкве і жыхары нашых вёсак кадзілі імі хаты, а пасля спальвалі хрысткі з дубоў, якія лічаць дрэвамі жыцця. У час цяперашняга калядавання многа радасці, весялосці і станоўчай энергіі. Спяваючы калядкі, мы яшчэ радуемся Хрыстоваму Нараджэнню і гэтую радасць перадаем вяскоўцам, — сказала Анна Фіёнік, мастацкі кіраўнік Студыі фальклору «Жэмэрва» са Студзіводаў, якая калядавала ў міжнароднай грамадзе з калектывамі «Жэмэрва» і «Хаціславяне».

— Мяне вельмі зацікавіў абрад «Хрыстка», які ў Арэшкаве падтрымлівалі жанчыны з калектыву «Арэшкі», калі былі дзеткамі. На Вадохрышча хадзілі яны па хатах і раздавалі ўпрыгожаную галінку дуба з засушанымі лісткамі, якую называлі хрыстком і выказвалі да гаспадароў словы: «Панна Марыя на прыстолі стояла...». Гэтая традыцыя незвычайная. Мы даведаліся, што яна доўга захоўвалася ў Парцаве, пра што памятаюць найстарэйшыя жыхары сяла. Звестак пра такое калядаванне не знайшлі мы ў ніякай іншай мясцовасці на Падляшшы і Палессі. Мы ў нас, на Беласточчыне, аднаўляем калядаванне з хрыстком на Хрышчэнне Гасподняе з 2012 года, — заявіў Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны» ў Студзіводах. — Тут, у Ягуштове, мы таксама адраджаем народныя традыцыі Хрышчэння Гасподняга. Мы тут згодна з традыцыяй вітаем людзей у хаце або на панадворку, спяваем калядкі і свецкія радасныя песні пад музыку, якія спяваліся ў калядны перыяд. Хочам, каб дзеткі і моладзь, якія спяваюць па дамах толькі калядкі, пазнаёміліся з нашымі багатымі традыцыямі. Арганізуем таксама выступы ў вясковых святліцах і такі адбудзецца ў будынку пажарнай аховы ў Ягуштове, дзе апрача калядак будзем спяваць свецкія песні, каб у святочны перыяд, калі перажываем Хрыстовае Нараджэнне і Хрышчэнне Гасподняе, прынесці жыхарам радасць.

— Калі ладзіліся першыя Калядныя сустрэчы на Вадохрышча, мне было 11 гадоў і з гэтага часу я пастаянна калядую ў час Хрышчэння Гасподняга. Гэта вельмі радаснае калядаванне, падчас якога мы не толькі носім звёздачку, але таксама паказваем абрад з казой і мядзведзем, паколькі жывёла ў народнай традыцыі мела сваё значэнне, — распавёў Максім, сын Дарафея Фіёніка.

Жыхарам Ягуштова вельмі спадабаліся калядаванне і каляднікі з Беларусі і Бельска, якія заходзілі на панадворкі і ў хаты апранутыя ў даўнюю вопратку і размаўлялі з мясцовымі жыхарамі. Спеў калядак разыходзіўся таксама па вясковай вуліцы, паколькі каляднікі спявалі ў час перамяшчэння калянікаў з панадворка на панадворак.

— Мы прыязджалі на розныя мерапрыемствы, ладжаныя Музеем малой айчыны ў Студзіводах. Цяпер нам спадабаліся Калядныя сустрэчы на Вадохрышча, падчас якіх спяваем калядкі ў вясёлай кампаніі. Адны калядкі тут і ў нас падобныя, іншыя розныца. Да дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя дзетак і моладзь у Беларусі адганялі ад Царквы, але мы, будучы маладымі, падчас Раства Хрыстовага калядавалі па хатах, хаця і баючыся. Цяпер у Хаціславе традыцыя спявання калядак прадаўжаецца і нават мы, як ансамбль «Хаціславяне», калядуем па прыватных дамах і славім Божае Нараджэнне. У сябе на Вадохрышча мы не калядуем, але са сваім калядным рэпертуарам наведваем сёння жыхароў Ягуштова і бачым, што яны радуюцца нашым прывітальным і віншавальным словам і калядаванню. Частка калядак у Беларусі і тут, на Беласточчыне, падобныя. Жыхары Ягуштова вельмі шчыра прымаюць нас, — распавёў Вячаслаў Краўчук з Ансамбля народнай песні і музыкі «Хаціславяне» з Хаціслава ў Беларусі.

— У нас, у Ягуштове, паміж вёскай і Бельскам паўстала многа новых дамоў. Нашы старэйшыя жыхары таксама аднаўляюць свае хаты. Канешне, многа ў нас пенсіянераў і дамы таксама пустуюць, але наша вёска моцна разбудавалася. Маладыя працуюць у Бельску. Палі ў нас абрабляюцца іх уласнікамі або арандатарамі, — сказаў мужчына з Ягуштова і дабавіў, што ў гэтым годзе іх хаты падчас Раства Хрыстовага наведала многа калядоўшчыкаў. Былі гэта перш за ўсё дзеткі, але таксама дарослыя асобы, якія калядавалі на патрэбы царквы апостала Іаана Багаслова ў Ягуштове.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Што новага ў «Прымакоў»

**Інтэрв'ю з Юрыем Астапчуком — лідарам групы «Прымакі» і арганізатарам «Сяброўскай бяседы».**

**ЮРКА БУЙНЮК: — Цікавіць мяне гісторыя некалькіх Вашых песень, якія спяваеце з гуртам «Прымакі». На пачатак скажыце, як узнікла песня «Жонка мая, каханая» з апошняга альбома «Ты думай, думай».**

ЮРКА АСТАПЧУК: — Словы аўтарскія, а музыка ўкраінская, народная. Беларускі тэкст да гэтай песні напісаў я.

**— А як узнікла песня «Ты і я — навекі». Мне здаецца, што гэта сапраўды Ваша аўтарская песня?**

— Таксама словы аўтарскія, а музыка — пачутая намі. Здаецца, французская.

**— А не італьянская?**

— Можа так, італьянская.

**— Песня «Каханы мой», якую спяваеце ў дуэце з Багуславай Карчэўскай, гэта руская песня?**

— Так, так.

**— З рэпертуару спявачкі Юты?**

— Мы проста пераклалі словы песні з рускай на беларускую мову.

**— А хто напісаў беларускі тэкст?**

— Мы, разам з Багуславай.

**— Мне здаецца, што Вы лепш заспявалі, чымсьці ў арыгінале заспявала гэта Юта.**

— Мы пастараліся. Мы падбіраем перш за ўсё гэтыя песні, якія нам падабаюцца, якія дзесьці пачулі. Маем таксама нашы аўтарскія песні, але спяваем тое, што ляжыць нам на душы.

**— А якія аўтарскія песні ў «Прымакоў»?**

— Аўтарская песня гэта, напрыклад, «Карнавал» (з альбома «Ты і я на векі”, 2001 год) — наша аўтарская песня ад пачатку да канца. Я цяпер дакладна не назаву ўсіх, таму што па-першае, ляжу ў ложку хворы; па-другое, не маю пад рукою ўсіх твораў, каб сказаць Вам, якія песні нашы стапрацэнтна, а ў якіх словы або музыка нашы.

**— А песня «Калечка» — з рэпертуару рускай спявачкі Тацяны Аўсеенка, экс-вакалісткі рускай дыска-групы «Міраж»?**

— Так, так. Гэта таксама песня перакладзена з рускай на беларускую мову, а музыка расейская. Не помню, які быў яе арыгінальны загаловак, як называлася песня.

**— Гэта руская песня «Колечко», якую ўпершыню спявала Тацяна Аўсеенка на рускім фестывалі «Песня года» ў 1997 годзе.**

— Так, так, так.

**— Яшчэ ёсць песня «Цыганка». Мне здаецца, што гэта песня з рэпертуару Міхаіла Шуфуцінскага.**

— Так, так, дакладна. Таксама перакладзена з рускай на беларускую мову. Да песні «Цыганка» словы пісаў Віктар Швед.

**— Я думаю, што «Калечка» таксама напісаў Віктар Швед?**

— Не, да «Калечка» я пісаў беларускія словы. Віктар Швед напісаў словы да песні «Лаванда».



www.prymaki.pl

**— З рэпертуару Соф'і Ратару?**

— Дакладна так.

**— Словы «Ты і я навекі» таксама Віктар Швед?**

— Не, «Ты і я навекі» я напісаў.

**— «Ты і я навекі» гэта верш са зборніка паэзіі Віктара Шведа «Што ў сэрцы» ад 1991 года («Прымакі» паўсталі ў 1996 годзе!).**

— Ну так, але я абапіраўся на гэты верш. (*Астапчук напісаў толькі прыпеў, а страфы ўзяты з верша Віктара Шведа* — Ю. Б.)

**— У рэпертуары «Прымакоў» ёсць песня «У суботу Янка» з аўдыякасеты «Цыганка» ад 1998 года. Вы яе напісалі ці хтосьці іншы?**

— Не я напісаў. Першы раз пачуў гэту песню ў выкананні калектыву «Грамада», але не ведаю ці яе напісаў Генадзь Шэмет, ці проста дзесьці пачуў і спяваў. Калісьці «Грамада» была вельмі папулярнай у нас на Беласточчыне, часта выступала на Падляшшы. Я думаў, што яны спяваюць свае песні, але потым даведаўся, што яны спявалі дзесьці там пачутыя песні.

**— Але «Грамада» мела і аўтарскія песні, між іншым, «Васількі».**

— Мне здаецца, што гэта пераклад песні. Але гэта не мы словы напісалі, ані музыку. З таго, што я ведаю, гэта беларускі пераклад песні з украінскай мовы. Проста, мы дасталі гэтую песню ад якойсь, помню, бабулі, якая нам заспявала гэту песню. Бабуля родам з-пад Орлі, з гэтых ваколіц. Мы спявалі канцэрт у Дубічах-Царкоўных і яна падышла да нас з такой карткай, дзе напісаны былі словы. Яна заспявала нам гэту песню і мы запісалі яе на касету «Цыганка». Але ведаю, што я чуў гэту песню на ўкраінскай мове, але не ведаю, ці яна першапачатковая была народнай, ці кімсьці напісанай. Не ведаю.

**— Яшчэ песня «Маміна сарочка» — яна з рэпертуару ўкраінскай спявачкі Наталлі Май?**

— Гэта таксама чысты пераклад з украінскай мовы. Мы проста перарабілі яе на беларускую мову.

**— А «Дзяцінства» (з альбома «Мой родны кут» ад 2004 года) — з рэпертуару Юрыя Шатунова?**

— Так, так дакладна.

**— Далей спытаю пра песню «Ой, кума» з альбома «Братка беларус» ад 1999 года?**

— «Ой, кума» гэта песня, якую я першы раз пачуў у выкананні «Песняроў».

**— А «Братка беларус» гэта аўтарская песня?**

— Так, гэта аўтарская песня. Напісаў яе і падарыў нам сам аўтар гэтай песні Міхаіл Скундзь з Баранавіч, з якім мы нават правялі аўтарскі вечар. Ён з Беларусі. Мы мелі з ім сустрэчу ў філармоніі ў Мінску і на гэтай сустрэчы ён сказаў, што гэтую песню ён дорыць «Прымакам».

**— А калі новы альбом «Прымакоў»? Апошні Вы выпусцілі ў 2014 годзе.**

— Каб я ведаў, дык напэўна Вам адказаў бы.

**— Апрача таго Вы арганізуеце «Сяброўскую бяседу».**

— Стараемся як можам. У 2019 годзе будзем адзначаць важны юбілей «Сяброўскай бяседы» — дваццацігоддзе. Пастараемся, каб яна была самай лепшай у сваёй гісторыі.

**— А што рыхтуеце на юбілей «Сяброўскай бяседы»?**

— Прыедзеце, пабачыце.

**— Якіх запросіце гасцей?**

— Яшчэ зарана пра гэта гаварыць, таму што гэта залежыць ад фінансаў. Падтрымліваюць нас дзве ўстановы — Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі з польскага боку, а з беларускага — Міністэрства культуры РБ. І пакуль яны прымуць рашэнні, нам трэба проста пачакаць. Часам так бывае нават, што месяц да «Сяброўскай бяседы» яшчэ не ведаем, хто прыедзе да нас.

**— А як узнікла магчымасць рэтрансляцыі «Сяброўскай бяседы» на YouTube? Ці прамую трансляцыю з імпрэзы можна паглядзець у інтэрнэце?**

— Калі я рабіў «Прымацкую бяседу» ў Міхалове, бургамістр Міхалова наняў нам фірму, якая праводзіла прамую трансляцыю ў інтэрнэце. Мы раз паспрабавалі гэта зрабіць і ўсё ўдалося, а людзі былі задаволены. Шмат было пазітыўных водгукаў і з гэтай пары мы пачалі з гэтай фірмай супрацоўнічаць. Кожны год мы выкупляем прамую трансляцыю, а ўсю «Сяброўскую бяседу» ўжывую можна паглядзець на transmitujemy.pl

**— І гэта дорага Вас каштуе?**

— Залежыць, ці яны знойдуць спонсараў. Часам так бывае, што іх знаходзяць. Раз «Сяброўскую бяседу» падтрымаў канцэрн «Volvo». Стаялі дзве аўтамашыны гэтай маркі і тады «Volvo» плаціла 5 тысяч за сваю рэкламу, а мы, з таго, што я помню, плацілі дзве тысячы злотых, а дзве з паловай тысячы дакідалі з гэтага боку.

**— А «Прымацкую бяседу» таксама можна паглядзець на YouTube?**

— Прынамсі можна было. Першая прамая трансляцыя была з «Прымацкай бяседы» ў Міхалове.

**— Спадар Юрка, віншую, што Вы ў 2016 годзе вярнуліся ў Гарадок і надалей арганізуеце «Сяброўскую бяседу». Вы ж аўтар і пачынальнік «Сяброўскай бяседы».**

— Так, я аўтар гэтай імпрэзы. Аднак сам не сарганізаваў бы, калі б не дапамога людзей, спонсараў і шматлікіх гуртоў, якія жадаюць уключыцца ў гэтую справу. Шмат людзей працуе на гэта, каб «Сяброўская бяседа» выглядала так, як яна выглядае.

**— Спадар Юрка, дзякую Вам за інтэрв'ю. Жадаю, каб Вы як найхутчэй вярнуліся да здароўя, каб зноў нам ігралі і спявалі.**

— Дзякую шчыра і пастараюся, як гэта кажуць. Цяпер нават няма часу, каб сесці і крышку творча папрацаваць. Працую дырэктарам Гарадоцкага дому культуры і крышку адсунуў на бок новыя творы і новыя песні для «Прымакоў» але думаю, што неўзабаве ўсё вернецца на сваё месца.

Інтэрв'ю ўзяў
**Юрка БУЙНЮК**
**(21.01. 2019)**

# З невуцкага аспекту

Ніякія загоншчыкі не падганялі мне Алега Латышонка пад прыцэл; сам прыйшоў. У 4-м нумары „Нівы” артыкулам „Гісторыкі і заўзятары гісторыі” ўзяўся ён наводзіць парадак з ніўскімі — менавіта — заўзятарамі гісторыі. У тым ліку таксама і мне паказаў месца ў страі. Вельмі гэта добра, бо парадак павінен быць. І добрае яшчэ тое, што спадар Латышонак заўважыў адсутнасць у мяне гістарычнай адукацыі і даравальнае няведанне тае ж гісторыі. У доказ гэтаму пра пасляваенную дзяльбу Белавежскай пушчы працытаваў ён фрагмент майго тэксту: „А сабе Сталін узяў маленька, сціпленька, так жа і на свой мундзір не чапляў ён ніякіх аздабленняў. Чаму так сталася, дакладна не вядома і ўсялякія заўзятары гісторыі толькі здагадваюцца, толькі здагадваюцца...”

І зараз жа нанёс па гэтым маім няведанні рашучы ўдар: „Заўзятары няхай і далей здагадваюцца, але гісторыкі як ішла гэтая дзяльба ведаюць дакладна і нават падрабязна”. Хітры наш Алег Латышонак — я пра кароўку, а ён пра вяроўку. Бо ў мяне было пытанне ЧАМУ ТАК СТАЛАСЯ, а ён вымае з рукава зусім іншага туза: ЯК ІШЛА ГЭТАЯ ДЗЯЛЬБА і радасна кідае яго на стол. Цуд тут такі, быццам у Кане-Галілейскай, дзе заміж вады з'явілася віно. Мой грэх у адсутнасці гістарычнай адукацыі, бо калі б яна ў мяне была, то, пэўна, ведаў бы, што адукаваныя гісторыкі не разважаюць пытанняў ЧАМУ, толькі пытанні ЯК; пытаннямі ЧАМУ займаюцца, пэўна, нейкія невукі. Але добра і гэта, бо і пра ход дзяльбы, як яна адбывалася, таксама карысна нешта ведаць.

Здагадваюся, што адукаваныя гісторыкі падлягаюць нейкаму савуар-віўру, нейкім канонам, устаноўленым нейкім гістарычным сінодам. Затое я магу дазволіць сабе зусім некананічную вольнасць з мішмашам ЯК і ЧАМУ. І працытаваць успамін пра дзяльбу Белавежскай пушчы не гісторыка, але ўдзельніка тае дзяльбы, менавіта Эдварда Асубкі-Мараўскага. Пісаў ён так: „Gdy już dyskusja w sprawie granic zdawała się być wyczerpana, zabrałem głos w sprawie oświadczenia rządu ZSRR z początku 1944 r. i obiecanych poprawek linii Curzona... (...) Są trzy możliwe takie poprawki. Ja z nich wymienię najskromniejszą, mianowicie Puszczę Białowieską. Związek Radziecki wielokrotnie powtarzał, że nie zależy mu na powiększaniu swego rozległego państwa, a tylko na uporządkowaniu sprawy narodowości ukraińskiej i białoruskiej. W przypadku Puszczy Białowieskiej problem narodowościowy nie istnieje, gdyż przecież żubry i inna zwierzyna przynależności narodowej nie posiadają. Puszcza Białowieska jest zaś naszym parkiem narodowym, historycznym miejscem walk partyzanckich w powstaniach o niepodległość Polski z Caratem i ma dla Polski duże znaczenie psychologiczne. Poza tym Polska ma lasy wytrzebione przez Niemców, a również Puszcza jest naszym zagłębiem surowcowym dla Hajnówki. Dlatego apelujemy usilnie, aby Puszcza Białowieska została przy Polsce. Stalin ani słuchać nie chciał dalszej dyskusji na ten temat i oświadczył: „nada kończyt' dieło”. Wtedy poprosiłem o krótką przerwę w obradach celem naradzenia się polskiej delegacji. Wyszliśmy do sąsiedniej sali, gdzie oświadczyłem polskim towarzyszom (a zapewne moje oświadczenie było natychmiast znane przez „akustykę” Stalinowi), że jeżeli ZSRR nie ustąpi nam Puszczy Białowieskiej, to ja kategorycznie podaję się do dymisji jako przewodniczący PKWN, gdyż nie uważając granicy wschodniej za sprawiedliwą, nie znajduję w sobie dość sił duchowych i wewnętrznego przekonania, żeby propagować przyjaźń polsko-radziecką. Nie widzę żadnych racji, aby Puszczę odłączać od Polski i Hajnówki. Pozostali delegaci wyrazili najpierw swoje zadowolenie, że w końcowej dyskusji nie poruszyłem sprawy Lwowa, bo taki wniosek wobec stanowiska strony radzieckiej mógłby być uważany za „prowokacyjny” (...) Rozmowa została przerwana, a my wróciliśmy do swego lokalu w ZPP i oczekiwaliśmy z niecierpliwością na wiadomości z Kremla. Po upływie może pół a najwyżej półtorej godziny dzwoni telefon. Komisarz Mołotow prosi mnie do aparatu i zawiadamia telefonicznie, że marszałek Stalin wyraził zgodę na przekazanie połowy Puszczy Polsce łącznie z Białowieżą. Komisarz Mołotow gratuluje mi poza tym odniesionego sukcesu. Przypomniałem sobie oświadczenie sowieckiego urzędnika w Białymstoku w 1939 r., że „u nas nie daje się tyle, ile się prosi” i pomimo rzekomego „sukcesu” nie widziałem powodu do wielkiej radości, liczyłem choćby na całą Puszczę Białowieską, a nie jej połowę”.




З прыведзенай цытаты вынікае, што Асубка-Мараўскі здзейсніў іншы канагалілейскі цуд: замяніў беларусаў у безнацыянальную звярыну. Гэты цуд, як будзе паказана далей, мог сыграць рашаючую ролю ў такой а не іншай дзяльбе Белавежскай пушчы...

Пры нагодзе варта яшчэ працытаваць і фрагмент цытаты, якую А. Латышонак, услед за А. Вялікім прыводзіць у сваім артыкуле: „Не болей як праз гадзіну, паводле ўспамінаў М. Роля-Жымерскага, яму патэлефанаваў В. Молатаў і паведаміў, што І. Сталін пагадзіўся перадаць ім палову Белавежскай пушчы і м. Белавеж”. Тады ўзнікае пытанне, ці ДАКЛАДНА І ПАДРАБЯЗНА ВЯДОМА, каму званіў Молатаў: Жымерскаму ці Асубку-Мараўскаму?.. Да гэтага дадам, што польскія даследчыкі тэмы цытуюць Асубку; мабыць ім дакладней і падрабязней вядома, хто бліжэй праўды... А дакладна павінна быць вядома, не толькі заўзятарам гісторыі, што ўсялякія мемуары з'яўляюцца чыста СУБ'ЕКТЫЎНЫМІ запісамі, накіданымі пасля нейкага часу па ўспамінаных здарэннях. Аўтары не заўсёды захоўваюць пра тыя здарэнні акуратную памяць, здараецца ім нешта забыць, нешта ад сябе дадаць. А здараецца таксама, што некаторыя аўтары мэтанапраўлена прыводзяць выдуманыя і фальшывыя звесткі. Папулярны беластоцкі гісторык дакументы, да якіх не мае ён даверу, называе папросту фальсіфікатамі. Фраза Алега Латышонка ДАКЛАДНА ВЕДАЮЦЬ таксама з'яўляецца фальсіфікатам; гэтая заўвага адносіцца не толькі да гісторыкаў, але і да ўсяго спектра навуковых спецыяльнасцей. Больш дакладна было б пісаць, што ўсялякія вучоныя ТОЛЬКІ ЗДАГАДВАЮЦЦА...

Нейкіх дзесяць ці пятнаццаць гадоў таму — даўно гэта было і навуковых кардынат тэксту не помню — чытаў я артыкул брытанскага або амерыканскага даследчыка па ўсталяванні пасляваеннай польска-савецкай граніцы. І было там, што польскія дэлегаты бедавалі перад Сталіным, што іхнім таварышам, калі не атрымаюць Белавежскай пушчы, не будзе дзе паляваць. Маршал напэўна добра разумеў патрэбу палявання — ён жа сам, пра што можа адкрытым гістарычным тэкстам не згадваецца, быў вельмі паспяховым паляўнічым: упаляваў мільёны прыматаў. Праўда, не рабіў гэтага асабіста, але меў дзеля гэтага занятку цэлыя арміі загоншчыкаў і стральцоў, якія шчыравалі на шостай частцы зямной сушы. Сам жа маршал быў толькі дыспетчарам за крамлёўскім пультам. Магчыма, што ён час ад часу і выходзіў ад таго пульта пад адкрытае неба ў час ленінскіх суботнікаў, каб замежным інтэлектуалам паказаць, як славуты грузін высакародна грузіць нейкі груз, а сваім служыцелям культу даваў спажыву для іхняй працы. І, пэўна, не адступіў бы ён Белавежскай пушчы, калі б не цуд, здзейснены Эдвардам Асубкам-Мараўскім; у выніку гэтага цуду ў Пушчы не стала Сталінавых мішэняў. Пушча стала яму непатрэбнай. Але пра гэта я, прафанна, толькі здагадваюся, толькі здагадваюся...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Якая праўда?

19 студзеня па Фейсбуку ад сябры Ежы Каптэвіча з РАІ я атрымаў інфармацыю такога зместу: «Вітаю! Сьогодні помер український письменник з Білостоку бл. п. Василь Петручук». Надта здзівіўся я гэтай інфармацыі. Адкуль у паважанага калегі Ежы Каптэвіча такая інфармацыя, што Васіль Петручук з Беластока гэта ўкраінскі пісьменнік? Са светлай памяці Васілём Петручуком яднала нас сардэчнае сяброўства яшчэ з шасцідзясятых гадоў. Пісалі мы адначасова ў «Ніву», сустракаліся на з'ездах карэспандэнтаў у шматлікай ніўскай сям'і, а ў пазнейшых гадах спатыкаліся ў рэдакцыі «Нівы». Васіль быў членам літаб'яднання «Белавежа». Яго кніжныя выданні «Пожня», «Блізны», «Крышынкі», «Клавуня, гэта я, твой Вася» напісаны на беларускай мове. Друкаваўся ў «Ніве» і «Часопісе». Пахаваны 24 студзеня на могільніку ў Дайлідах. У апошнюю дарогу праводзілі яго сябры Беларускага літаб'яднання «Белавежа», журналісты, сям'я і блізкія. У апошнім слове над магілай старшыня літаб'яднання Ян Чыквін сказаў: «Ён не мае падабенства ў літаратуры — ні ў беларускай, ні ў польскай. Ён арыгінальны». З таго, што прыпамінаю, Васіль заўжды лічыў сябе беларусам, або, інакш кажучы «тутэйшым», з Грабаўца, што каля Дубічаў-Царкоўных. Мне здаецца, што хтосьці тут памыліўся. А мо свядома пусціў па інтэрнэце фальшыўку. Дык для якой мэты?

Уладзімір СІДАРУК

## СПАЧУВАННІ

**З вялікім смуткам успрыняў вестку аб смерці пісьменніка, шматгадовага члена Беларускага аб'яднання «Белавежа», аўтара вядомых кніг «Пожня», «Крышынкі», «Блізны» і іншых.**

**ВАСІЛЯ ПЕТРУЧУКА**

**Гэта адчувальная страта для ўсёй беларускай супольнасці. Пісьменнік больш за палову стагоддзя дзяліўся сваім талентам з асяроддзем, аб высокай ацэнцы яго творчасці і актыўнай грамадзянскай пазіцыі гаворыць ягоныя шматлікія ўзнагароды. Ад імя Пасольства Беларусі ў Польшчы, ад мяне асабіста выказваю глыбокія спачуванні сям'і, родным і блізкім, сябрам і паплечнікам, з якімі шчыра падзяляем боль страты. Вечная памяць!**

**Аляксандр Авяр'янаў,**
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування сям'і і блізкім

**ВАСІЛЯ ПЕТРУЧУКА**

нашага шматгадовага публіцыста і карэспандэнта з прычыны напаткаўшага іх гора

**рэдакцыя Нівы**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Зімовыя і палявыя кветкі

Кажуць, калі знікнуць дзікія палявыя расліны з нашых лугоў і лясоў, тады знікнуць фантазія, мары, сюрпрызы...

У дзень, калі прапануем вам маляванку з палявымі кветкамі, на двары лёгкі маразок. А яшчэ раніцай, пасля марознай ночы, мы ўзіраліся на маляванкі, якія нехта пакінуў на шыбках у вокнах. Ды адкуль яны? Хто той мастак, што прыдумаў чароўныя папараці, кветкі і зоркі, ад якіх немагчыма адарваць вачэй?

Людзі кажуць, гэта мароз намаляваў!

Але ці гэта правільны адказ?

Справа ў тым, што яшчэ ніхто сэнсоўна не высветліў, адкуль бяруцца ўсе гэтыя чароўныя расліны, загадкавыя постаці і ўзоры. Што хочуць яны нам сказаць? Ці можа гэта варажба на бягучы год, які нясмела набірае скорасці і ўсё ярчэй напаўняецца святлом?

А можа лепш пакінуць усе пытанні і ў цішы глядзець на начны малюнак-сюрпрыз. Ён зразу разбудзіць нашу фантазію і думкі пра летнія канікулы, адпачынак, краскі і матылькоў ...

(гак)

# Стыпендыяты маршалка за 2019 год

Надта багаты спісак вучняў, якія атрымалі Мастацкую стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства на 2019 год. Іх ажно 120 асоб! Гэта прыблізна палова ўсіх тых, хто дабіваўся стыпендыі. Лаўрэаты вылучаны ў разнавідных галінах мастацтва. Сярод іх шмат аматараў музыкі: інструменталісты, спевакі, а нават рэжысёры гуку. Значная колькасць стыпендыятаў атрымала падтрымку ў галіне пластыкі і дызайну. Камісія прыкмеціла таксама аматараў танцаў, фільма, тэатра, дэкламатараў і літаратараў. Вялікі шанц на стыпендыю мелі дзеці і моладзь, якія спалучалі названыя галіны мастацтва. Сярод іх мы прыкмецілі вядомых у беларускім асяроддзі дэкламатараў, спевакоў, танцораў, акцёраў. Многа іх ажыццяўляе мастацкія праекты аб'яднання АБ-БА. Гэта Коля Здрайкоўскі, Марыся Пякарская, Юлія Баравік ці Сара Скаўронская. З Гайнаўкі стыпендыі атрымалі, між іншым, вядомыя энтузіясты беларускай гавэнды і тэатральных пастановак: Крыстыян Паскробка, Эва Кот ці Дамініка Пуц і Іза Карчэўская. Стыпендыяты атрымаюць 250 злоты на месяц. Віншуем! *(гак)*

**РАЗМАЛЮЙЦЕ**

Малюнак Алены Шапілы

## УВАГА КОНКУРС! № 05-19

Былі ў барана
Яго жонка і брат,
І мелі ўсе трое
Па двое ягнят.
Вось і скажы нам,
Малы матэматык,
Колькі было там
Маленькіх ягнятак?
(.....)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 17 лютага 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 1: зубр. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Караліна Валентыновіч, Рафал Шыманскі з Бабікаў, Магда Ваўранюк з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Вераніка Снарская з Міхалова, Алекс Зыскоўскі, Юстына Астапковіч з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Каміль Мартонік, Эмілька Каранкевіч з Залук, Оля Мадзалеўская, Кацпэр Каліноўскі з Нарвы. Віншуем!

# Настаўнік з добрай кнігай!

У нядзелю, 13 студзеня ў Кленіках, адбылася прэзентацыя кніжкі «Klejniki — dzieje wsi i parafii». Аўтар кнігі — Ян Лабузінскі, настаўнік-пенсіянер.

Жыхары і выхадцы Кленік, якія тлумна з'явіліся на сустрэчу, маглі набыць кніжку і атрымаць аўтограф. Прыгожым дапаўненнем свята былі калядкі ў выкананні хору, які дзейнічае пры Кленіцкай царкве.

Карыстаючыся нагодай, я паставіла некалькі пытанняў спадару Яну Лабузінскаму.

Вікторыя Гаць: — Адкуль ідэя, каб напісаць такую кнігу?

Ян Лабузінскі: — Цяпер я на пенсіі, але ўсё жыццё працаваў у мясцовай школе. Быў дырэктарам і навучаў гісторыі. Адтуль мае зацікаўленні. Цяпер школы няма, але калі яна яшчэ была, то мы адкрылі Рэгіянальную ізбу. Наш праект падтрымалі Фонд падтрымкі вёскі і Цэнтр грамадскай адукацыі Польшча-Беларусь. Мы ўжо тады сабралі многа гістарычных матэрыялаў. Пасля, калі паявілася прапанова войта Чыжоўскай гміны, каб выдаць кнігу пра Кленікі, я пачаў папаўняць гістарычныя крыніцы і пашыраць саве веды.

В. Г.: — Колькі часу спатрэбілася, каб напісаць кніжку?

Я. Л.: — Год часу збіраў дакументы і матэрыялы, і год часу складаў і пісаў кніжку. Так што спатрэбіліся два гады.

В. Г.: — У кніжцы многа фотаздымкаў, адкуль Вы іх узялі?

Я. Л.: — Я ў Кленіках ведаю ўсіх, людзі таксама мяне ведаюць. Я па чарзе заходзіў да кожнай сям'і і пытаўся пра старыя фотаздымкі. Людзі вельмі добра паставіліся да маёй працы, ахвотна давалі здымкі для сканавання, шмат успаміналі.




В. Г.: — Якія цяжкасці Вас сустрэлі пры збіранні матэрыялаў?

Я. Л. : — Збіраць фатаграфіі не было цяжка, але напісаць тэкст гэта ўжо няпростая справа. Трэба было шукаць гістарычных крыніц у архівах, але там не было ўсяго што трэба. Тады з дапамогай прыходзілі людзі, якія падказвалі, дапамагалі.

В. Г.: — Сённяшняя сустрэча паказала, што Ваша кніжка вельмі патрэбная. Людзі добра пра яе гавораць. Ці думаеце ўжо пра наступныя кніжкі?

Я. Л.: — Яшчэ не ведаю, можа і будуць...

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Блыха і каралевіч

Адзін каралевіч усю ноч пакутаваў з-за блыхі, якая гойсала як дзікі ветрагон і джаліла яго далікатнае цела. Недзе над раніцай каралевіч злавіў дакучлівую паразітку.

А тая вінавата схіліла галоўку і прыгожа папрасіла:

— Шаноўны і міласэрны прынц! Даруйце маю смеласць і ўсе правіны. Мая шкода — такая малая-малюсенькая! Шкада мне гінуць з-за такой дробязі!

А каралевіч толькі паціснуў плячыма і адказаў:

— Ты аднак праявіла ўсю злосць, заядласць і спрыт, каб дасягнуць сваю мэту. Ты ўзяла з мяне ўсё, што толькі было ў тваёй моцы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Іван КАРСУНСКІ
НШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

### Стрэс

Стрэс. Гэта мозгу крэс?
А мо і вялікі нейронаў
прагрэс?
Ён завецца клякса.
Кожны кажа «плакса клякса
гуталі на носе гарачы блін»...
— Ці блін з мёдам?
Можа, з маслам?
— Але трэба з рыбіным
жырам.
— Можа, лепш з інжырам?
Па-ра-ра-рам!
Трэба слова берагчы.
Лепш аб рэчы гаварыць.
А рэч якая?
Такая: конкурс!
Стрэс, вядома.
А вось клякса тут.
І тут!
А на паперы — бруд!

## Польска-беларуская крыжаванка № 5-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1-2019:**
Хто, халат, ты, коска, космас, не, штат, ах, гонар, клак, сад. Хата, суп, кошык, хвост, смага, каток, тарас, Ас, нара, поспех.

Узнагароды, **наклейкі**, выйгралі **Адрыян Майсак** з Залук, **Павел Пахвіцэвіч, Наталля Касцюк** з Орлі, **Марлена Кандрацюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Юля Дарпенская, Марта Петручук** з Нарвы, **Аня Баравік, Кася Данілюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Карнелія Варанцэвіч** з Бабік, **Зуза Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

Umywalka, Rekin, Zima, Nadzieja, Dziewczyna, Osa, Błękit, Reszta, Woda, Dźwignia, Analog, Ha!, Wiking, Park, As, Sklep, Odpoczynek, Zadanie, Mama, Jota, Sad, Las, Miara, Sto, Wół, Las olchowy, Kuzyn, Agata, Tom, Koło, Jak, Gad, Okno

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Рэдкія фотаздымкі і дакументы Васіля Урублеўскага з Малешаў

Нядаўна ў „Ніве” быў апублікаваны мой матэрыял пра рэпатрыянтак з вёскі Малешы Вышкаўскай гміны сясцёр Таццяну і Вольгу Урублеўскіх, якія цяпер жывуць на Дзятлаўшчыне Гарадзенскай вобласці. Пасля ніўскай публікацыі патэлефанаваў мне грамадскі актывіст з Дзятлава Валерый Петрыкевіч і сказаў, што сын Вольгі Урублеўскай з Дзятлава мае шмат старых здымкаў Урублеўскіх.

Сядаю на машыну і еду да Уладзіміра Урублеўскага — сына Вольгі Урублеўскай, унука Васіля Урублеўскага, сям'ю якога ў 1946 годзе палякі выгналі з Малешаў і яны апынуліся ў вёсцы Маскалёўцы на Дзятлаўшчыне.

Заходжу ў хату да 89-гадовай Вольгі Урублеўскай, дзе мяне чакае Уладзімір — сын гаспадыні. Мы з ім доўга гутарым пра рэпатрыяцыю і ён паказвае стос старых здымкаў, да якіх мне каментарый робіць спадарыня Вольга. Але і яна не ўсё памятае, не ўсіх асоб на здымках змагла прыгадаць, расшыфраваць. Але supольна мы змаглі на многіх здымках разгадаць некаторых сваякоў і сяброў Васіля Урублеўскага. Здымкі вельмі каштоўныя для гісторыі рэпатрыяцыі беларусаў Беласточчыны. Усе яны сёння друкуюцца ўпершыню. Здымкам па 50-110 гадоў, яны былі зроблены на Беласточчыне, у Гародні, на Дзятлаўшчыне і ў Расіі.

Акрамя фотаздымкаў Уладзімір Урублеўскі паказаў і некалькі каштоўных дакументаў з жыцця беларуса Васіля Урублеўскага і яго сям'і.

Самым каштоўным дакументам з'яўляецца пасведчанне Тамбоўскага рэальнага вучылішча 1918 года з фотаздымкам Васіля Фёдаравіча Урублеўскага з пячаткай на сургучу. Тады сям'я Урублеўскіх з Беласточчыны знаходзілася ў бежанстве, дзе Васіль Урублеўскі скончыў рэальнае вучылішча і атрымаў адукацыю настаўніка пачатковых вучылішч. Гэта адукацыя пазней яму на Бацькаўшчыне шмат дапамагала.

Захавалася ў сям'і Урублеўскіх і даведка № 2002. На ёй на рускай мове напісана, што грамадзянін Васіль Фёдаравіч Урублеўскі эвакуіруецца з тэрыторыі Польшчы ў Беларускую ССР у сувязі з пастановай ад 9 верасня 1944 года паміж



■ З адваротнага боку здымка напісана: „На доўгую памяць роднаму дзядзьку Васілю Урублеўскаму ад Леаніда Пракопавіча П. Паўднёвы Сахалін, 30 жніўня 1948 года”.



■ Васіль Урублеўскі з сябрам. Фотаздымак быў зроблены ў Гародні ў фотамайстэрні Рубінштэйна да Першай сусветнай вайны.



■ Здымак пляменніка Васіля Урублеўскага ў польскім войску, 10 сакавіка 1958 года.



■ Мікалай Урублеўскі — родны брат Васіля Урублеўскага, 27 красавіка 1915 года.



■ Васіль Урублеўскі (злева) і Марыя — яго жонка, Малешы. Фота да 1941 года. Сябры і знаёмыя Васіля Урублеўскага



■ Сябры Васіля Урублеўскага. Здымак зроблены ў Сувалках у фотамайстэрні „Rembrand”.




■ Фотаздымак роднага брата Васіля Урублеўскага. Здымак зроблены ў Брэст-Літоўску, 1 мая 1909 года.



■ Брат Васіля Урублеўскага, здымак зроблены ў Гародні да Першай сусветнай вайны.



■ Здымак падпісаны так: „На памяць сям'і Урублеўскіх Васілю і Марыі ад Сідорка Сямёна Васільевіча (Сымка Базылёвага). Данбас, 1966 год. Пакрава”. Родам з вёскі Малешы.



Свидѣтельство.

Предъявитель сего ...

на основаніи Высочайше утвержденныхъ 22 апреля ... года, 13 декабря 1894 года и ... декабря 1895 года, мнѣній Государственнаго Совѣта и специальныхъ постановленій по Министерству Народнаго Просвѣщенія, подвергшись ... испытанію въ Педагогическомъ Совѣтѣ Тамбовскаго реальнаго училища и выдержавъ ... удостоенъ званія учителя начальныхъ училищъ. Въ удостовѣреніе чего дано ... сіе свидѣтельство за надлежащимъ подписаніемъ и съ приложеніемъ печати Тамбовскаго реальнаго училища. Гор. Тамбовъ, 191.. года ... дня.

№

Директоръ Тамбовскаго реальнаго училища

Пасведчанне Васіля Урублеўскага аб заканчэнні Тамбоўскага рэальнага вучылішча, 1918 год.



СПРАВКА № 202

Выдана гр-ну ... (фамилия, имя и отчество)

в том, что он эвакуируется с территории Польши в Белорусскую ССР в соответствии с соглашением от 9 сентября 1944 г. между Правительством Белорусской Советской Социалистической Республики и Польским Комитетом Национального Освобождения «Об эвакуации белорусского населения с территории Польши и польских граждан с территории БССР».

Гражданин ...

направляется в ... область ...

район с членами семьи 6 ч. (указать членов семьи)

...

Районный Уполномоченный Совнаркома БССР по эвакуации

(печать)

Тип. им. Сталина.

Даведка ад эвакуацыі з Беласточчыны, 1946 год.



На адваротным баку фота напісана: „На доўгую памяць г-ну Васілю Фёдаравічу ад Ганны Асавіцкай. 20 лютага 1911 года”.





Палікарп Касінскі (?) — сябра Васіля Урублеўскага з Бельска, 1908 год.



З адваротнага боку напісана: „На добрую і доўгую памяць В. Ф. Урублеўскаму. А. К. 25 лютага 1911 год”.

Урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення „Аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і польскіх грамадзян з тэрыторыі БССР”. Далей рукой напісана, што Урублеўскі Васіль Фёдаравіч накіроўваецца ў Баранавіцкую вобласць, Стаўбцоўскі раён БССР з членамі сям'і — 6 чалавек: Урублеўскі Васіль Фёдаравіч — галава сям'і, Урублеўская Марыя Міхайлаўна — жонка, Урублеўскі Уладзімір Васільевіч — сын, Урублеўская Вольга Васільеўна — дачка, Урублеўская Таццяна Васільеўна — дачка. І подпіс: раённы ўпаўнаважаны саўнаркама БССР па эвакуацыі ў Бельску Сукачоў. 15.06.1946 года. І пячатка.

Трэці дакумент — заява Коласа Іосіфа Іпалітавіча, жыхара горада Пінска, вуліца Кляновая, 10 у Дзятлаўскі раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння Гарадзенскай вобласці. У заяве спадар Колас пацвярджае, што Васіль Урублеўскі працаваў настаўнікам у вёсцы Малешы з 10 лістапада 1939 года і ў вёсцы Вышкі з верасня 1940 года да 22 чэрвеня 1941 года. Спадар Колас таксама працаваў настаўнікам і школьным інспектарам з лістапада 1939 года да 22 чэрвеня 1941 года ў Бранськім раёне.

Захавалася і біяграфія Уладзіміра Урублеўскага на рускай мове, якая напісана яго рукой. Уладзімір Урублеўскі пісаў: „Нарадзіўся 1927 года ў вёсцы Малешы Бельскага раёна Беластоцкай вобласці. У 1936 годзе пайшоў у пачатковую школу і скончыў яе ў 1941 годзе. Падчас акупацыі немцаў працаваў на сельскай гаспадарцы. У час вызвалення савецкай арміяй выехаў у 1946 годзе ў БССР і займаўся на сельскай гаспадарцы. У 1948 годзе паступіў на працу вучнем у Дзятлаўскі РПК і звольніўся па ўласнаму жаданні”.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Святочныя разважанні



Студзень для вернікаў Праваслаўнай царквы гэта час радасці і вяселля, самы багаты ў святочныя дні перыяд. Святкаванні пачыналіся 6 студзеня з Куцці. Успамінаецца мне дзяцінства і юнацкія гады ў пасляваенны час. У 1945 годзе бацька вярнуўся з канцлагераў пасля нямецкага зняволення. Першая Куцця ў сямейным крузе. Ёлка, упрыгожаная каляровымі ланцужкамі і цукеркамі, пячэннем уласнага вырабу, яблыкамі ды шклянымі шарыкамі. Унізе, пад дрэўкам — Дзед Мароз у чырвонай куртцы і ў такой жа шапачцы, з беласнежнай барадою, а наверсе — залатая зорка. На стале пад белым абрусам духмянае сена і пачастунак з дванаццаці страў: куцці, смажаных грыбоў, селядцоў з бочкі і смажанай рыбы, пухкіх бліначыкаў і варэнікаў з макам, шчолаку з фруктаў з дамашняга агародчыка ды іншых прысмакаў. У куточку кухні стаяла «каляда» — вязка жыта. Вячэра пачыналася малітвай пры з'яўленні першай зоркі на небе. Затым былі падарункі. Не памятаю зараз, што нам тады бацька прывёз з чужыны, але кожны з сямейнікаў быў шчаслівы.

На першы дзень Хрыстовага Нараджэння мы з братам Віктарам ішлі калядаваць з гвяздай. Вывучылі некалькі калядак вядомых у наваколлі і заходзілі на кожную сядзібу. Памятаю, што тады самымі папулярнымі калядкамі былі «Скінія златая» і «Ражджаство Хрыстова». Калядавалі ў сваёй вёсцы і ў суседнім Глупні, пасёлку Чаромхі-Станцы за рэчкай, дзе знаходзілася вадакачка. Грошы дзялілі папалам. Бацькам не аддавалі свайго прыбытку.

Каляды адзначалі тры дні. Затым быў Шчодры вечар і Новы год (13-14 студзеня). Напярэдадні Новага году, на Гагатуху, моладзь збіралася і рабіла фокусы. Хлопцы здымалі фортачкі ды брамы і заносілі на суседнія панадворкі або ўкідалі ў агародчык. У дамах, дзе былі паненкі, замалёўвалі вапнай вокны. Адной паненцы на саламяны дах зацягнулі санкі («сучкі»). Іншай дзяўчыне комін на даху закрылі шкляной шыбай. Гаспадыня, не ведаўшы аб гэтым, распальвала печку, а тут поўна хата дыму. Шмат часу праходзіла, пакуль выявілася гэтага прычына. Дзяўчаты ў гэты час, патаемна перад кавалерамі, займаліся варажбой. Вылівалі воск на ваду, кавалеру забіралі дрэўка з-пад дашка ды лічылі: пара, лішка... Як у канчатковым ліку вынік быў парны, значыцца, дзяўчына хутка выйдзе замуж. Паненкі выходзілі таксама на панадворак і слухалі брэху сабак. З якога боку пачуецца брэх, дык з таго боку будзе жаніх. На Гагатуху хадзілі цыганы-«пшэберанцы»: баба з дзедам, смерць з касою ды д'ябал. Для малеч страх выклікала смерць, а пацеху — д'ябал. У пасляваенны час на Каляды і Новы год хадзілі таксама з шопкай. У Кузаве гэтым займаўся Іван Маркевіч з сынамі Алёшай і Міхасём. Дванаццаць фігурак для шопкі бацька Міхася сам выразаў у дрэве. Міхась быў з нашай кампаніі, на год малодшы за мяне (1941 г. н.). Часта мы збіраліся ў Маркевічавай хаце і глядзелі шопку. Пасля смерці бацькі старэйшы Аляксей ажаніўся ў Вітаве, ды шопку забраў з сабою. Даўно памерлі Іванавы сыны Аляксей і Міхась ды забралі з сабою таямніцу кузаўскай шопкі.

Завяршэннем калядных святкаванняў было Вадохрышча (19-21 студзеня). Пачыналася яно ў Кузаве з ранішняй багаслужбы ў царкве, затым асвячалі ваду ў крыніцы побач з рэчкай Нурэц. Крыніца знаходзілася непадалёк мосціка ў «рэзе» (так кузаўцы называлі балоцістую дарогу побач царквы, якая пралягае з Пагулянкі ў Чаромху-Станцыю). Вадохрышча, як і самі Каляды адзначаюцца ў царкве трохдзённымі святкаваннямі. 19 студзеня, на першы дзень Вадохрышча, у мяне асаблівае свята — дзень нараджэння. Некалькі год таму святкаванні праводзіў я ў ніўскай кампаніі. Ад чатырох гадоў, знясілены балючымі нагамі, пражываю ў адзіноце ў дамашнім ачагу.

Сёлета куццю спажывалі мы ў кампаніі дачкі Аліны ды ўнукаў Кінгі з Кшысем. Яны падрыхтавалі святочныя стравы, убралі ёлку, затым правялі першы дзень Божага Нараджэння разам пры святочным застоллі. Пасля абеду падаліся ў Беласток. Шчодры вечар правёў з Радыё Рацыя пры Падляшскім канцэрце пажаданняў. А сёлетні дзень нараджэння правёў я ў адзіноце пры камп'ютары, слухаючы песні. Прымаў таксама дзясяткі віншаванняў і пажаданняў на фейсбуку. Прыемна сябе адчуваеш, калі хтосьці яшчэ памятае ды прыкіне спагадлівае слова з пажаданнем моцнага, як студзеньскія маразы, здароўя. А ў нядзелю, на другі дзень Вадохрышча, патэлефанаваў я ў Малінніскі да цёткі Надзі, 95-гадовай пявунні са святочнымі віншаваннямі. Затым паўспаміналі мы мінулыя будні.

— Калісьці я арганізавала ў Малінніках супольнае калядаванне, — канстатавала субяседніца. — Збірала каляднікаў з усяе вёскі, ды пад гукі гармоніка Сцяпана Копы ішлі ад хаты да хаты з вясёлай навіной, аб'яўляючай Божае Нараджэнне. Зараз слабыя ногі прымушаюць сядзець у хаце. У самоце раздумваю пра мінулую маладосць, якая, на жаль, не вернецца назад, — сумам завяршае цётка Надзя.

Такія вось гэта мае сёлетнія святочныя разважанні.

Уладзімір СІДАРУК

---

Грамадскі МАГІСТРАТ

# http://mahistrat.org

У беларускай краіне мясцовае кіраванне існуе выключна фармальна. Насамрэч прызначаныя дэпутаты ніякім чынам не прадстаўляюць інтарэсаў тых, хто іх нібыта абраў. А між тым традыцыі мясцовага кіравання на нашых землях сягаюць у глыб стагоддзяў, хаця б да тых часоў, калі беларускія гарады атрымлівалі Магдэбургскае права. Сёння тыя традыцыі з большага забыты, але ёсць людзі, якія ведаюць аб іх і спрабуюць нейкім чынам давесці да сучаснікаў.

Адной са спроб нагадаць аб слаўным мінулым з'яўляецца створаны ў 2010 годзе ва ўсходнебеларускім горадзе Магілёве, што на Дняпры, „Грамадскі магістрат". Гэтае ўтварэнне нават арганізацыяй яе сябры не называюць, а толькі грамадскай ініцыятывай. Не так даўно ў яе з'явіўся сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе **http://mahistrat.org**.

„Грамадскі Магістрат" — гэта грамадзянская ініцыятыва, якая ставіць сваёй мэтай актывізацыю мясцовай супольнасці і кансалідацыю інтэлектуальных сіл горада ў сацыяльна значнай дзейнасці. Мы лічым, што гарадская супольнасць можа і павінна прымаць больш ўдзел у гарадскіх справах, быць важкім суб'ектам у працэсе прыняцця ўладных рашэнняў на мясцовым узроўні", — распавядаецца ў рубрыцы, якая мае назву „Хто мы".

Увогуле галоўная старонка сайта даволі прывабная. Так, на ёй месціцца выява гравюры старога Магілёва, уверсе выйсці да рубрык, а ўнізе апошнія паведамленні, якія так ці інакш тычацца дзейнасці „Грамадскага магістрата". Таксама там маецца архіў паведамленняў ад 2012 года.

Сярод розных тэкстаў варта вылучыць адзін, які можа паказаць, якія праблемы турбуюць цяперашніх магілёўцаў, бо ён апісвае праведзенае сацыялагічнае даследаванне і размешчаны на сайце напрыканцы леташняга снежня. Аказваецца, жыхароў горада больш за ўсё непакояць рост цэн, нізкія заробкі, павышэнне камунальных плацяжоў, павышэнне пенсійнага ўзросту і нізкі ўзровень культуры. Дадзенае даследаванне зрабіў адзін з экспертаў „Грамадскага магістрата", сацыёлаг Юрый Бубнаў. З ім, а таксама з трыма іншымі навукоўцамі — гісторыкамі Ігарам Пушкіным і Аляксандрам Агеевым, эканамістам Пятром Мігурскім цікаўны карыстальнік інтэрнэту можа віртуальна пазнаёміцца, калі зазірне ў рубрыку „Эксперты".

Рубрыка „Што мы робім" можа распавесці пра дзеянні „Грамадскага магістрата" ад часу яго з'яўлення. „Найперш, шэраг „круглых сталоў" і грамадскіх слуханняў, прысвечаных праблемам развіцця мясцовых супольнасцей, беларускамоўнай адукацыі, захавання гістарычнай спадчыны горада. Выпушчаны два нумары бюлетэня „Магістрат". Зроблены сайт магістрата. Выдадзены і прэзентаваны даследаванні па праблемах гарадской эканомікі і будучыні так званых дамоў-„хрушчовак". Рэгулярна праводзіліся мерапрыемствы, прысвечаныя Магдэбургскаму праву і ягонай ролі ў гісторыі Магілёва", — даюць справаздачу актывісты „Грамадскага магістрата".

Менавіта апошняе дзеянне — штогадовае шанаванне ўгодак надання Магілёву Магдэбургскага права стала для „Грамадскага магістрата" знакавым. Перш за ўсё таму, што падчас гэтага адзначэння праходзіць узнагароджанне граматамі тых, хто найбольш праявіў сябе ў грамадскім жыцці горада за мінулы год.

Аляксандр ЯКІМЮК

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## 90 гадоў з дня нараджэння

# Анатоля Грыцкевіча

Беларускі гісторык Анатоль Грыцкевіч нарадзіўся 31 студзеня 1929 г. у Мінску. Аднак сваёй малой радзімай лічыў гістарычную Случчыну. Невыпадкова адна з яго навуковых прац — гісторыка-эканамічны нарыс „Слуцк", які вытрымаў два выданні. У сучасным Нясвіжскім раёне ёсць вёска Грыцкевічы, а ў Капыльскім раёне — вёска Грыцэвічы. Раней гэтыя мясцовасці якраз уваходзілі ў Слуцкі павет.

У 1950 г. Анатоль Грыцкевіч скончыў Мінскі медыцынскі інстытут, у 1955 г. — Мінскі педагагічны інстытут замежных моў, а ў 1958 г. — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Атрымаў такім чынам ажно тры вышэйшыя адукацыі. Вельмі рознабакова адукаваным быў і яго старэйшы брат — Валянцін Грыцкевіч, які таксама вельмі шмат зрабіў для беларускай навукі, хоць большую частку дарослага жыцця правёў у Пецярбургу.

Некаторы час Анатоль Грыцкевіч працаваў лекарам. З 1959 г. — у інстытуце гісторыі Акадэміі Навук Беларусі. З 1975 г. — загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры (з 1993 г. — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры). Адначасна ў 1996-2000 гг. быў дырэктарам Беларускага інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

У 1963 г. напісаў кандыдацкую дысертацыю на тэму „Сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватнаўласніцкага горада Беларусі ў XVI—XVIII стст.". У манаграфіях „Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв." (1975, „Социальная борьба горожан Белоруссии в XVI—XVIII вв." (1979) вызначыў колькасць прыватнаўласніцкіх местаў, іхнія тыпы, ровень эканамічнага развіцця, сістэму кіравання, іхнюю ролю як вайсковай апоры, грунтоўна аналізаваў Магдэбургскае права. У 1984 г. напісаў доктарскую дысертацыю на тэму „Сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватнаўласніцкіх гарадоў Беларусі ў XVI—XVIII стагоддзях". У 1986 г. стаў доктарам гістарычных навук. У 1996 г. атрымаў міжнароднае прызнанне, стаўшы членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

Анатоль Грыцкевіч даследаваў гісторыю Беларусі перыяду феадалізму, прыватнаўласніцкія месты, гістарыяграфію. Вывучаў рэлігійныя праблемы ў Вялікім Княстве Літоўскім, становішча Праваслаўнай царквы, Уніяцкай царквы. Таксама даследаваў гісторыю Беларусі ў час барацьбы за незалежнасць, абвяшчэння БНР, Слуцкі збройны чын, беларуска-літоўскія дачыненні. Аўтар публікацый па гісторыі шляхецкага стану, генеалогіі шляхты і выбранцаў. Адной з апошніх прац гісторыка была брашура да 500-годдзя бітвы пад Оршай. Усяго ў яго выйшла каля 10 манаграфій і звыш 1300 артыкулаў.

Анатоль Грыцкевіч заўсёды меў актыўную грамадскую пазіцыю, быў сярод заснавальнікаў Беларускага народнага фронту „Адраджэньне", пазней уваходзіў у Кансерватыўна-хрысціянскую партыю БНФ. Шмат разоў уваходзіў і працаваў у розных аргкамітэтах па святкаванні юбілеяў і круглых угодкаў айчыннай гісторыі. Уваходзіў у Раду беларускай інтэлігенцыі. Пэўны час узначальваў Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына".

Незадоўга да смерці ў гісторыка здарыўся інсульт, развілася сардэчная недастатковасць. Памёр Анатоль Грыцкевіч у Мінску 20 студзеня 2015 г. Пахаваны пасля крэмацыі ў магіле маці на сталічных Усходніх могілках.

За тры гады да смерці ў бібліятэчнай серыі „Беларускі кнігазбор" выйшла кніга выбраных прац гісторыка. Пазней у серыі „100 выдатных дзеячаў" з друку выйшла прысвечаная яму кніжка аўтарства Анатоля Тараса.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## У нас „Ніву” чытаюць

21 студзеня гэтага года ўсе тры нумары „Нівы” ад пачатку года я завёз пастаянным чытачам у Новіны і Плянту. Роднага часопіса чакалі Канстанцін Ярашук і Валянціна Самойлік. Спадарыня Валянціна купіла таксама „Ніву” з беларускім календаром на 2019 год. Варта дадаць, што зараз у „Ніве” было шмат дописаў з жыцця жыхароў Нараўчанскай гміны і былі фотаздымкі. Дзесяць экзэмпляраў „Нівы” № 3 ад 20 студзеня г.г. у крамах ГС і „Аргелян” у Нараўцы купілі жыхары Новага Ляўкова і Падляўкова. Мае знаёмыя сказалі мне: „Ты, Янка, больш пішы, а мы наш беларускі штотыднёвік будзем купляць і чытаць”. Мне было прыемна такое пачуць.

22 студзеня г.г. быў я ў Гайнаўцы і наведаў кіёск і бар у бальніцы, у якіх прадаюць беластоцкі беларускі штотыднёвік. Сюды прывезлі 300 экземпляраў „Нівы” з календаром і да далейшай продажы асталося толькі 30 штук. Зрух у продажы наступіў, калі жыхары Гайнаўкі прачыталі мой допіс „Мы з «Нівай»”, між іншым, пра тое, што ў бальнічных пунктах продажу ёсць яшчэ „Ніва” з календаром.

# НАШЫ карэспандэнты

Раніцай 22 студзеня г.г. купіць „Ніву” з календаром на 2019 год прыйшоў да мяне Юрка Зубрыцкі з Новага Ляўкова. Яшчэ трэба будзе мне паехаць з „Нівай” з календаром да Юліі Драўноўскай (яна спявае ў калектыве „Цаглінкі”) са Старога Ляўкова. Ехалі мы аўтобусам у Гайнаўку і спадарыня Юлія папрасіла мяне прадаць ёй вышэйзгаданы экземпляр „Нівы”. Не меў я яго з сабою. Аказваецца, трэба браць „Ніву”, куды б я не ехаў. Газета ж не цяжка. І так ужо буду рабіць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Нараўчанская гміна Гайнаўскага павета знаходзіцца па-суседску з Белавежскай, Гайнаўскай, Нарваўскай і Міхалоўскай гмінамі ды з Рэспублікай Беларусь. Зараз у Нараўчанскай гміне ўсё менш і менш жыхароў. Цяпер — у канцы 2018 года — яна налічвала 3659 жыхароў. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 864 чалавекі. У Семяноўцы пражывае 385 асоб, у Старым Ляўкове — 319, у Новым Ляўкове — 209, у Скупаве — 190, у Міклашэве — 170, у Плянце — 155, у Тарнаполі — 124, у Лешуках — 112 і ў Альхоўцы — 96.

Ніжэй сотні налічваюць вёскі Свінарої — 86, Ахрымы — 83, Стачок — 72, Заблотчына — 69, Старое Масева — 58, Гушчэвіна — 56, Баб'я Гара — 51, Міхнаўка, Новая Лука і Янова — па 49, Лесна — 47, Новае Масева і Грушкі — па 35, Падляўкова — 31, Капітаншчына і Пасекі — па 29, Гарадзіска — 28, Слабодка — 24, Бярнацкі Мост — 23, Мінкоўка — 20 і Крыніца — 17.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семянякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 15, Новіны і Парослае — па 12, Забрады — 11, Церамкі — 9, Баравыя і Ланчына — па 5, Замоша — 4 ды ўсяго па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае (апошняя гэта калёнія Новага Ляўкова).

Паменшаў лік жыхароў у вёсках Старое Ляўкова — на 12, Нараўка — на 8, Ахрымы — на 7, Семяноўка — на 6, Тарнаполь — на 5, Старое Масева — на 4 ды Альхоўка, Баб'я Гара, Гушчэвіна, Гарадзіска, Крыніца і Лесна — у кожнай з іх на 3.

У Нараўчанскай гміне шчыльнасць насельніцтва складае 11 чалавек на квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадае 96 жанчын. У 2018 годзе было дзевяць жыхароў ва ўзросце 95-98 гадоў і 56 асоб ва ўзросце каля 90 гадоў. У тым жа годзе нарадзілася 27 дзяцей і памерлі 52 асобы. Восем пар атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё”, прысвоеныя ім прэзідэнтам РП.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

*Беласток*

## Пабудуюць новыя аўтастаянкі

У гэтым годзе на жыллёвых пасёлках у Беластоку пабудуюць новыя паркінгі — стаянкі для аўтамабіляў, між іншым, на Новым Месце, Бэма, Выгодзе, Скарупах і ў Старасельцах. На Новым Месце стаянку на 30 месц пабудуюць, між іншым, пры вуліцы Гродзенскіх арлянят. На Выгодзе запланавалі пабудаваць стаянку на 83 месцы па вуліцы Уладыслава Ягайлы (тут знойдуцца месцы таксама для аўтамабіляў тых асоб, якія пры рознай нагодзе прыедуць на могілкі) ды па вуліцы 42 Палка пяхоты — на 24 месцы. На пасёлку Скарупы па вуліцы Валынскай зробяць стаянку для 18 аўтамабіляў.

У Старасельцах пры вуліцы Партугальскай будзе новая аўтастаянка на 34 месцы. Сёлета магістрат намераны яшчэ пабудаваць новую стаянку на пасёлку Юзэфа Бэма пры вуліцы Балгарскай (зараз рыхтуецца праект) ды невялікія аўтастаянкі пры вуліцах Дворскай, Дзялковай і Рамесніцкай. **(яц)**

*Нараўчанская гміна*

## Белыя канікулы школьнікаў

21 студзеня гэтага года пачаліся зімнія канікулы, між іншым, у школе ў Нараўцы Гайнаўскага павета. Тры прыгожыя і прасторныя самаўрадавыя святліцы ды бібліятэкі ў Нараўчанскай гміне ў Нараўцы, Семяноўцы і ў Старым Ляўкове на гэты вольны ад навукі час традыцыйна ўжо запрасілі школьнікаў і дашкольнікаў да сябе і запрапанавалі па меры сваіх магчымасцей розныя культурна-забаўляльныя і спартыўныя мерапрыемствы.

Жанчыны вядучыя вясковыя дамы культуры намецілі ў планах зімняга адпачынку дзяцей і моладзі экскурсіі ў Беласток ды прагулкі па Белавежскай пушчы (Ляўкова, Нараўка і Семяноўка гэта пушчанскія вёскі) з гульнямі пры вогнішчы і кілбаскамі, падпечанымі на агні. У клубных залах інструктарка Вольга Максімюк будзе вучыць разьбе ў гліне. Удзельнікі светліцовых заняткаў будуць выконваць, між іншым, выцінанкі пад кірункам Нэлі Харкевіч. У планах прадбачаны гульні пры ёлачцы і баль-маскарад. Падчас сёлетніх белых канікулаў у стараляўкоўскай святліцы адбудзецца шырокавядомы турнір настольнага тэніса імя Яраслава Ляшчынскага для ўсіх ахвотных. У ім удзельнічае перш-наперш многа моладзі. У 2019 годзе будзе ён адзінаццаты. **(яц)**

# 03.02 — 09.02

**(22.03. — 20.04.)** Паміж працай, якой табе хоціць, і заслужаным адпачынкам мусіш знайсці час на кампанейскае жыццё. Змерышся са звычайнымі і незвычайнымі выклікамі. 3-4.02 напружаная атмасфера на працы і недахоп часу. Да 6 лютага будзеш злосны, сварлівы. 7-9.02. вяртанне сілы і паляпшэнне адносін з блізкімі. Тое, над чым сядзіш доўгі час, 5-9.02. дасць плён; атрымаеш добрыя вынікі, здасі цяжкія экзамены.

**(21.04. — 21.05.)** Калі ведаеш, чаго хочаш, дасягнеш гэтага. Прыцягваеш цяпер удачы і толькі самых мілых людзей. Аформіш цяжкія справы. Можаш адчуваць стому, можаш быць апухлы, нявыспаны, задбай аб свой імунітэт, парабі медабследаванні. 3-5.02. будзеш раздражнены, нецярплівы, што не паможа табе ў рашэннях.

**(22.05. — 22.06.)** Акалічнасці будуць змяняцца. Шмат спраў прыйдзецца абдумаць і запланаваць. 2-4.02. — час спрыяе навучанню і зданню экзаменаў. Знакамітыя задумы і магчымасць іх рэалізацыі. Работы будзе больш, але такая, якую любіш.

**(23.06. — 23.07.)** Яшчэ больш ахвотна будзеш дапамагаць іншым, здабываючы іх сімпатыю і ўдзячнасць. Падкрунуцца твае прафесійныя амбіцыі, і зоркі дадуць табе дарогу да поспехаў. Работа будзе гарэць табе ў руках, з умовай, што будзе цікавай. Найбольшы прыбытак там, дзе трэба супрацоўнічаць і пераконваць. Падпісвай важныя дамовы. Выйдзі да людзей. Больш руху.

**(24.07. — 23.08.)** Нічога не мяшае табе ў тым, каб рэалізаваць свае мары. Энергія патрэбная для ўсіх пільных абавязкаў. Не адпускай сабе дыеты і дысцыпліны. 3-4.02. сустракай і наведвай старых знаёмых. У пачуццях і сувязях — нічога на сілу. Прыемныя завіраванні сярод сям'і і сяброў. 7-9.02. народзяцца ў тваёй галаве планы звязаныя з падарожжамі. Кругаварот на працы. 5-9.02. канца не будзе словам прызнання. 5-9.02. поспехам можа кончыцца старанне за працу.

**(24.08. — 23.09.)** Увесь месяц правядзеш на пазнаванні цікавых людзей і адкрыванні шматабяцальных перспектыў. Палагоджаны будуць усялякія канфлікты, клімат спрыяльны будаванню ўдалых адносін. Рамантычная атмасфера ў пастаянных парах. Акіян чуласці. Аддай больш часу блізкім. Заззяеш у фірме. Справы будуць каціцца памалу, але дзякуючы цярплівасці, сістэматычнасці і сумленнай працы дойдзеш да мэты. Зважай на тое, што ясі.

**(24.09. — 23.10.)** Гэта не час на флірты. Лепш займіся працай, а неўзабаве будзеш пажынаць плады. 3-5.02. убачыш святло ў тунелі. Энергія, магчымасць зрэалізаваць амбітныя планы, задаволіць жарсці. Твае дзеянні будуць мець размах. Адвага ў радыкальных зменах. 5-9.02. можаш мець нагоду для падпісання дамовы на працу. Еж каларыйныя сняданкі.

**(24.10. — 22.11.)** Запамятаеш гэты месяц як цудоўны час поўны шалёных прыгод і нечаканых здарэнняў. 3-5.02. не дай апярэдзіць сябе канкурэнцыі, асабліва калі ты з другой дэкады. Шматлікія кантакты з людзьмі і новыя знаёмствы. Шанцы высветліць складаныя справы, раскрыць таямніцы, адбудаваць сваю пазіцыю. Пачуцці ў бляску свечак. Сярод сяброў і сям'і гармонія і згода. На працы зоймешся некалькімі справамі адразу, але не без дапамогі калег і добрай арганізацыі. Шчасце і пасняховыя выпадкі. Зайграй у латарэю. 3-4.02. трымайся здалёк ад рызыкоўных мерапрыемстваў.

**(23.11. — 22.12.)** Адолееш усе праціўнасці лёсу, а твой рахунак падмацуе салідны прыліў грошай. Дзякуючы развазе не зробіш пару глупстваў. Цёпла ў пачуццях. Не пераборшч з імпрэзамі. Удачы ў інтарэсах. Знакамітая форма.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш ззяць такой энергіяй і радасцю, што кожны схоча быць у тваёй кампаніі. Хаця 3-4.02. будзеш мець праблемы ў паразуменні з найбліжэйшымі. Немалая доза аптымізму, сілы і веры ў тое, што робіш. У пачуццях лепш, чым добра. Сярод сяброў і радні выкарыстай сваю харызму. На працы добрая паласа ўдач.

**(21.01. — 19.02.)** Дасканалая форма. Чэрпай з жыцця поўным жменямі. Не адкладвай нічога на заўтра! 5-9.02. мілая неспадзяванка. Энергія — сілу будзеш мець за двух. Адкрыеш дарогі развою, парадак у знаёмствах. Зрабі штосьці шалёнага! У сям'і патрабуеш адлегласці. На працы абавязкаў больш, але дасі рады. Шэф не спусціць цябе з вока. Твае вітальныя сілы невычэрпныя, будзеш адчуваць сябе дасканала, а ўсе нямогласці мінуць.

**(20.02. — 21.03.)** Схочаш сустрэцца і павесяліцца з сябрамі. Скажы абавязкова любай асобе, што яе кахаеш. Сонца спрыяе парадку ў жыцці і завяршэнню ўсіх матываў. Пазбудзешся ваганняў і фінансавай няпэўнасці. На працы будзеш як у сям'і, але трымай язык за зубамі. Лаві ўлётныя хвіліны. Усё, што трэба для шчасця, маеш як рукой падаць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. азнака гетманскай годнасці, у якой ... лава = 9 _ 10 _ 12 _ 13 _ 14 _ 15 _;
2. рух паветра, на які можна кідаць словы = 3 _ 2 _ 16 _ 24 _ 27 _;
3. вялікі горад між Варшавай і Калішам = 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 17 _;
4. грошы ўзятыя ў доўг = 11 _ 18 _ 19 _ 8 _ 26 _ 28 _;
5. старажытны шумерскі горад = 4 _ 7 _;
6. адсутнасць бруду = 5 _ 6 _ 29 _ 30 _ 31 _ 1 _ 25 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | | | | | | | |
| | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | 18 | | | | | | | |
| | | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Венік, верас, зарыва, Ілі, Крынкі, цаля, як, яхта.

Рашэнне: **З невялікіх крыніц вырастае вялікая рака**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl

Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг з «Нівы» № 4)

Дэльфійскі дэвіз: СПАЗНАЙ СЯБЕ — задача на ўсё жыццё. Ды тут, сярод насычаных памяццю руін старажытнага духовага цэнтра хацелася ажыццявіць прывезеныя з сабой думкі пра родны край. У галаву лезлі магічныя прыклады ад беларуска-падляшскага панадворка. І нішто тут асабліва не здзіўляла, не шакіравала. Пра многія варажбы і павер'і старажытных грэкаў хацелася сказаць у адказ:

— Гэта рыхтык як у нас, на Гайнаўшчыне!

Узяць хоць бы павер'і, звязаныя з назіраннем унутраных частак у ахвярнай жывёлы.

Пасля таго, як старажытны паломнік абмыўся ў Кастальскай крыніцы, ён прыносіў у ахвяру казуль, авечак, быкоў. Каб дагадзіць і задобрыць ласку багоў, багацеі залацілі яшчэ рогі быкоў. Прыаздобленыя ахвяры даручалі мяснікам, якія лоўка бралі быдла і авечак пад нож. Побач выстойвалі жрацы, якія спачатку назіралі дрыжыкі і сутаргі канаючай ахвяры, а пасля заглядалі ў сярэдзіну разрэзанага жывата. Назіралі кшталт і размяшчэнне кішак, каб у іх выглядзе «прачытаць» нейкі знак. Сваё значэнне мелі выгляд і памеры вантробаў, яны «заяўлялі» пра перашкоды і складанасці ў рашэнні запытаў...

Усё, што адбывалася далей, мела свой парадак і значэнне. У ахвяру багам дарылі найлепшыя кусочкі — заднія кумпякі і палавыя органы. Іх абкручвалі сальцам, палівалі салодкім вінам ды спальвалі на рытуальным кастры. А ўсё, што засталося, раздзялялі сярод службы і чынавенства святога горада...

Ды пры чым тут наша Падляшша?

Яшчэ адносна нядаўна ў нас калі рэзалі свіней ці авечак, сяляне звярталі ўвагу на выгляд вантробаў. Напрыклад, па даўжыні касы гадалі ці надыходзячая зіма будзе доўгай ці кароткай. Надта важны камунікат пасылаў выгляд пячонкі, які вяшчаў здароўе або хваробу ў сям'і. Хворую пячонку спяшалі закапаць у зямлю за межамі сядзібы. Рэха ахвяравальных абрадаў захавалася і ў звычцы абдароўвання свяжынай суседзяў. З такой пасылкай пасылалі звычайна дзяцей, што памятаю з вопыту.

* * *

Веды пра рытуалы і ахвяраванні пакінулі нам старажытныя аўтары. Гэта дзякуючы ім Дэльфы набылі другое, сусветна-турыстычнае жыццё. Сёння прыемна назіраць памэкванне шчаслівых козак і дыхаць крыштальным, горскім паветрам. У залатыя час горада прастора пахла духмяным кадзілам і печаным мясам. Старажытныя грэкі аддавалі першынство чырвонаму колеру, на які была памалявана значная частка сакральных будоўляў...

Уся гэтая інтэнсіўнасць пахаў і колераў успыхвала ў перабольшанай меры каля дзявятага чысла кожнага летняга месяца. Тады на прыступках Апаланавай святыні выстойвалі доўгія, пакручастыя чэргі. Але дастацца ў памяшканне са святым агнём не было проста.

Тут, як у кожным іншым духовым вымярэнні, абавязвалі іерархія і парадак. У першую чаргу піфія разгадвала запыты каралеўскіх пасланцоў. Далей клікалі на прыём арыстакратаў, ваенных герояў ды ўсякую знаць. За імі ў чарзе выстойвалі мудрацы, архітэктары, скульптары ды спартсмены. Для гусляроў і паэтаў назначылі перадапошняе месца. За імі стаялі ўжо паспалітыя жыхары гарадоў, пасёлкаў і вёсак. Тым не менш, выстойванне ў чарзе наклікала метафізічны ляк. Кожны меў час, каб зрабіць рахунак сумлення. Людзі верылі ў шчырасць і бясспрэчную праўду боскай вяшчункі.


Ля калонаў святыні Апалона (рэканструкцыя)

# Дэльфы:
## пуп і вантробы свету!


Дэльфы з высі Парнаса


Фрагмнет арыгінальнай калоны, так званай «Карыятыды» (Дэльфскі музей)

Сюды цягнулі па справядлівасць і суцяшэнне.

Апошнія словы жыва ілюструе расказ пра трох маладзёнаў-падарожнікаў. У дарозе сустрэла іх хеўра рабаўнікоў, якія спачатку кінуліся рабаваць аднаго з абраных маладзёнаў. У яго абарону рушыў толькі адзін з сяброў. Той трэці пакарыстаўся зручным момантам і чым хутчэй даў драла. Абы далей ад няшчасця...

Сам фінал сутычкі атрымаўся дзікі і недарэчны. Маладзён, які заступіўся за сваім сябрам, замест злачынцы смяртэльна параніў прыяцеля.

Задачай піфіі было рассудзіць паводзіны малойцаў і назначыць вінаватых. Вяшчунка хутка разабралася з праблемай. Яна прагнала са святыні таго, што пакінуў сяброў у бядзе і ратаваўся ўцёкамі. А таго, што кінуўся ратаваць і выпадкова прычыніў смерць, назвала бязвінным і суцешыла словамі:

— Вяртайся ў міры дахаты. У цябе чыстыя рукі!

* * *

Апрача сказанага старажытныя вяшчункі жыва напаміналі нашы падляшска-палескія шаптухі і народныя цаліцелькі. Іх выбіралі сярод розных праслоек грамадства. Паходжанне і багацце не мелі тут большага значэння. Лічыліся талент, кемлівасць і прызванне. Да ролі піфіі прывучалі з дзяцінства. Спачатку праслугоўвалі пры святыні. Да справы вяшчання дапускалі іх толькі ў спелым узросце, ужо пасля заканчэння менструацыйнага цыкла. Іх дапамога была сплецена з бескарыснасцю, адкрытасцю і роўнай трактоўкай усіх наведвальнікаў.

Праўда, каб задобрыць ласку Апалона (між іншым боскага апекуна вяшчунства), паломнікі не толькі залацілі рогі ахвярнага дабытку. Многія з іх валаклі гурбы залатой ды сярэбранай пасудзіны, каштоўную біжутэрыю, пазалочаную зброю і шаўковыя апранахі...

Усё багацце перавозілі суднамі і лодкамі, каб далей даставіць на плячах рабоў і жывёлы.

Калі мы падымаліся на гару Парнас, насупраць, быццам вочы, сінелі воды Карынфскага заліва. Дэльфы якраз расгаложаны ў трынаццаці кіламетрах ад заліва, на старажытным шляху з Тэрмапілаў у Пелапанес.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960 05